ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 22 (2548)
ПЯТНІЦА
28
мая 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



## У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:





# НАРОД І АРМІЯ—АДЗІНЫЯ



Ад імя калектыву тэатра оперы і балета ўзнагароду прымае народная артыстка СССР Т. Ніжнікава.

Фота Ул. КРУКА.

У Мінскім акруговым Доме афіцэраў 24 мая адбыўся вечар, прысвечаны вынікам Усесаюзнага грамадскага агляду культурнага шэфства над Узброенымі Сіламі СССР. Як вядома, гэты агляд праходзіў у знамянальны год ленінскага юбілею і 25-годдзя Перамогі савецкага народа над гітлераўскай Германіяй. З дакладам выступіў старшыня рэспубліканскай ваенна-шэфскай камісіі БРК прафсаюза работнікаў культуры, заслужаны настаўнік школ БССР І. Герман.

— Пісьменнікі і мастакі, — гаворыць ён, — артысты і вучоныя, кампазітары і кінематаграфісты, работнікі друку, тэлебачання і радыё, музеяў, бібліятэк, клубных устаноў, лектары таварыства «Веды», выкладчыкі і студэнты ВНУ ў юбілейным ленінскім годзе неслі эстафету культурнага шэфства над воінамі ЧБВА і пагранічнікамі Чырванасцяжнай Заходняй пагранічнай акругі. Разам з творчай інтэлігенцыяй у культурным шэфстве над воінамі ўдзельнічалі тысячы самадзейных артыстаў і народных умельцаў.

Летась актывісты ваенна-шэфскай работы прачыталі ў часцях Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі і на пагранзаставах звыш 20 тысяч лекцый і дакладаў, правялі больш 2 300 творчых сустрэч, паказалі воінам 610 спектакляў, наладзілі 7 400 канцэртаў... Работнікі культуры, навукі, літаратуры і мастацтва Беларусі ганарацца сваёй дружбай з воінамі Савецкай Арміі...

За высокія паказчыкі ў культурным шэфстве над воінамі ЧБВА і Чырванасцяжнай Заходняй пагранічнай акругі калегія Міністэрства культуры СССР і прэзідыум ЦК прафсаюза работнікаў культуры прысудзілі пераходны Чырвоны Сцяг Міністэрства культуры СССР Беларускаму рэспубліканскаму камітэту прафсаюза работнікаў культуры. На вечары гэты сцяг быў аддадзен на захаванне калектыву Беларускай дзяржаўнай філармоніі.

Намеснік начальніка аддзела прапаганды і агітацыі Палітупраўлення ЧБВА палкоўнік У. Захараў паведаміў, што кубкам Міністэрства абароны СССР за шэфскую работу ўзнагароджаны калектыў Беларускага тэатра оперы і балета; пераходным Чырвоным Сцягам Ваеннага савета ЧБВА — акадэмічны тэатр імя Я. Купалы і кубкамі Ваеннага савета ЧБВА — Дзяржаўны камітэт Савета Міністраў БССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні, Саюз журналістаў БССР; кубкамі Палітупраўлення ЧБВА — Саюз пісьменнікаў БССР, Мінскі абком прафсаюза работнікаў культуры, Рускі тэатр імя М. Горкага і Рэспубліканскі тэатр юнага гледача; граматамі Ваеннага савета ЧБВА узнагароджаны Дзяржаўны народны хор БССР, Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла БССР, тэатр музычнай камедыі, Магілёўскі і Гомельскі абласныя драматычныя тэатры, Музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, Музей абароны Брэсцкай крэпасці-героя, рэдакцыі газет «Звязда», «Советская Белоруссия», «Вячэрні Мінск», Саюз кінематаграфістаў БССР; кубкам акруговага Дома афіцэраў — Дзяржаўны цырк.

Вялікая група актывістаў ваенна-шэфскай работы ўзнагароджана граматамі Ваеннага савета ЧБВА.

Затым выступіў член Ваеннага савета — начальнік Палітупраўлення ЧБВА генерал-лейтэнант А. Дзебалюк, які павіншаваў узнагароджаных, заклікаў і далей высока несці эстафету культурнага шэфства над Узброенымі Сіламі СССР.

Начальнік палітаддзела Чырванасцяжнай Заходняй пагранічнай акругі Д. Куваеў за паспяховае культурнае шэфства над пагранічнікамі ўручыў кубкі Ваеннага савета акругі рэспубліканскаму таварыству «Веды», Акадэміі навук БССР, Саюзу мастакоў БССР і Беларускай кансерваторыі. Граматамі ўзнагароджаны калектывы Брэсцкага і Гродзенскага абласных тэатраў, Саюз кампазітараў БССР, радыётэхнічны інстытут, Гродзенскі абком прафсаюза работнікаў культуры.

Ад імя адзначаных узнагародамі работнікаў мастацтва выступіла народная артыстка СССР А. Клімава.

— У мірныя дні і ў суровыя гады ваеннага ліхалецця савецкае мастацтва заўсёды было разам з нашай арміяй. Свае лепшыя спектаклі мы ахвотна паказваем воінам Савецкай Арміі. Дзякуй ім за выдатную службу! Дзякуй за тое, што яны ахоўваюць мірную працу нашага народа, што нашы дзеці спакойна сустракаюць раніцу і сонца кожнага дня...

# З НЕВЫЧЭРПНЫХ КРЫНІЦ ЖЫЦЦЯ

## Справаздачны даклад VI з'езду кампазітараў Беларусі старшыні праўлення Саюза кампазітараў БССР, народнага артыста СССР Р. ШЫРМЫ

УПЕРЫЯД ад V да VI з'езда кампазітараў Беларусі адбываліся знамянальныя падзеі, і адзначаліся важныя даты ў жыцці савецкага народа — 50-годдзе Вялікага Кастрычніка, 50-годдзе Беларускай ССР і Кампартыі Беларусі, 25-годдзе перамогі над фашызмам, 100-годдзе з дня нараджэння У. І. Леніна, XXVII з'езд Кампартыі Беларусі і XXIV з'езд КПСС. Працоўная дзейнасць і духоўнае жыццё людзей нашай краіны праходзіла пад сцягам вялікай праўды ленінскіх ідэй.

Ленінскія ідэі ўвасабляюцца ў дасягненнях народа, яны жывяць і мастацкую творчасць дзеячоў літаратуры, музыкі, кіно, тэатра. Лепшыя здабыткі савецкага мастацтва яшчэ і яшчэ раз сведчаць пра гэта.

Абдумваючы сучаснае жыццё, мы не можам не гаварыць пра тую пагрозу, якая навісла над светам, пагрозу выбуху «тэхнічнага патэнцыялу», назапашанага імперыялізмам. Узброены да зубоў, ён ператварае цуды вынаходніцтва ў смяротную небяспеку. І мастак у такіх абставінах — гэта баец ідэалагічнага фронту.

«Дзеячы літаратуры і мастацтва знаходзяцца на адным з вострых участках ідэалагічнай барацьбы. Партыя і народ не мірыліся і не будуць мірыцца са спробамі — з якога б боку яны ні зыходзілі—прытупіць нашу ідэйную зброю, заплямііць наш сцяг», — гаварыў на XXIV з'ездзе КПСС Л. І. Брэжнеў.

На нас, кампазітараў, кладзецца асабліва вялікая адказнасць за ідэйныя якасці музычных твораў, адказнасць за тое, каб з-пад пяра музыканта выходзілі высокамастацкія творы аб нашай сучаснасці, аб подзвігу нашага народа-змагара. Музыка актыўна ўдзельнічае ў маральна-эстэтычным выхаванні савецкага чалавека, асабліва юнацтва і школьнікаў.

Беларускія кампазітары прыйшлі да свайго VI з'езда з добрым плёнам. У нас ёсць дасягненні ў вакальна-сімфанічным і сімфанічным жанрах. У нас з'явіліся новыя беларускія оперы і балеты, аперэты, інструментальныя канцэрты. Створаны новыя песні, хоры, камерна-інструментальныя п'есы.

Аглядаючы апошняе пяцігоддзе ў развіцці беларускай музыкі, мы бачым, што стылявой яе асновай застаецца народная песня. У лепшых творах гэтага часу нашы кампазітары імкнуліся спалучыць класічныя і нацыянальныя рэалістычныя традыцыі з багатым 50-гадовым вопытам развіцця многанацыянальнай музычнай культуры Савецкага Саюза.

Кампазітары БССР прымалі ўдзел у падрыхтоўцы і святкаванні ўрачыстых юбілеяў, якія адзначала ўся наша краіна і ўсё прагрэсіўнае чалавецтва. 50-ю гадавіну Кастрычніка, паўвекавы юбілей Беларусі і яе Камуністычнай партыі, стагоддзе з дня нараджэння Леніна нашы музыканты адзначылі юбілейнымі пленумамі, справаздачнымі канцэртамі ў Мінску і розных гарадах нашай краіны—у Маскве, Кіеве, Растове-на-Доне, Варонежы, Запарожжы. Сапраўдным святам нацыянальнай культуры сталі Дні беларускай музыкі ў Малдавіі і Чувашыі, юбілейныя канцэрты ва Ульянаўску. Беларускія кампазітары і музыказнаўцы прымалі ўдзел у Дэкадзе ўзбекскага мастацтва і літаратуры ў БССР. Нашы дэлегацыі ўдзельнічалі ў з'ездах і пленумах праўленняў Саюзаў кампазітараў братніх рэспублік.

Беларускія музыканты правялі каля 350 творчых сустрэч з калектывамі працоўных Беларусі, лекцыі-канцэрты, аўтарскія вечары, абмеркаванні новых твораў, шэфскія выступленні перад воінамі Савецкай Арміі і пагранічнікамі. Актыўны ўдзел у гэтай дзейнасці прымалі І. Лучанок, Ю. Семяняка, А. Ракава, Г. Вагнер, М. Шнейдэрман, І. Кузняцоў, К. Цесакоў, Д. Смольскі, Р. Буцвілоўскі, Л. Аўэрбах, В. Сізко і іншыя таварышы. Беларускае аддзяленне Музфонду СССР наладзіла яшчэ каля 400 творчых сустрэч і лекцый-канцэртаў з удзелам нашых кампазітараў і музыказнаўцаў.

Музычная грамадскасць рэспублікі за мінулыя пяць гадоў адзначыла ўрачыстымі канцэртамі юбілейныя даты заслужаных старэйшых дзеячоў нашай творчай арганізацыі—М. Чуркіна, Я. Цікоцкага, М. Аладава, М. Шнейдэрмана, П. Падкавырава, Р. Пуксты.

Поспехі музыкантаў беларускай арганізацыі адзначаны вышэйшымі рэспубліканскімі прэміямі, аб чым мы рады сёння сказаць. Узнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй БССР за канцэртна-выканаўчую дзейнасць у 1966 годзе — Р. Шырма і ў 1967 годзе— І. Жыновіч, у 1968 годзе — Я. Цікоцкі за оперу «Алеся», у 1969 годзе — А. Багатыроў за кантату «Беларускія песні», у 1970 годзе — Я. Глебаў за балет «Выбранніца» і араторыю «Свяці, зара!». Прэміяй ЦК ЛКСМБ у 1967 годзе ўзнагароджаны І. Лучанок за камсамольскія песні, а ў 1971 годзе яму прысуджаны срэбны медаль імя А. В. Аляксандрава за песні, прысвечаныя Савецкай Арміі.

У Беларускай філармоніі і ў кансерваторыі з вялікімі справаздачнымі канцэртамі выступілі кампазітары А. Багатыроў і Я. Глебаў, у Маладзечне адбыліся аўтарскія канцэрты Г. Вагнера і Д. Камінскага, у нашым саюзе — Э. Тырманд.

Беларуская музыка, асабліва творчасць нашай моладзі, усё часцей гучыць на ўсесаюзных музычных форумах і справаздачных канцэртах у Маскве. Гэта Другая сімфонія Я. Глебава, «Попел» і Канцэрт-бурлеск для фартэпіяна С. Картэса, «Песні Хірасімы» Д. Смольскага, «Фрэскі» Л. Абеліёвіча, Канцэрт № 2 для аргана і камернага аркестра А. Янчанкі, «Пахаванне Хатыні» А. Мдзівані.

НАШЫ МУЗЫКАНТЫ нямала папрацавалі ў апошнія пяць гадоў. Адчуваецца пэўны поступ наперад у вырашэнні складаных пытанняў уздыму прафесіяналізму ва ўсіх жанрах... Музыканты рэспублікі імкнуцца ўсебакова развіваць нацыянальную школу, працаваць у розных жанрах і формах, ад буйных музыкальна-тэатральных і сімфанічных да так званых «малых»—песенных і інструментальных. Кампазітары рэспублікі вывучаюць спадчыну і імкнуцца ўзбагаціць нацыянальны стыль найбольш эстэтычна каштоўнымі заваёвамі сучаснай творчасці савецкіх і прагрэсіўных зарубежных музыкантаў. Без такога ўзбагачэння мастакамі выяўленчых сродкаў немагчымы поступ наперад.

Адначасна мы павінны цвяроза ацэньваць дасягненні і ясна бачыць, што яшчэ трэба зрабіць для актыўнага развіцця сучаснай беларускай музычнай школы.

ПРЫЦЯГВАЕ ўвагу выканаўцаў і нашай грамадскасці праца нашых таварышаў у музычна-сцэнічных жанрах. Напісана каля дваццаці опер, балетаў, аперэт, вакальна-харэаграфічных кампазіцый. Важна, што ў гэтым напрамку аб'ядналі свае намаганні і музыканты старэйшых пакаленняў, і творчая моладзь.

Незадоўга да смерці закончыў оперу адзін з заснавальнікаў гэтага жанру ў Беларусі Я. Цікоцкі — «Заранка» («Ганна Громава») на лібрэта Я. Рамановіча. У другой аўтарскай рэдакцыі пастаўлена опера «Андрэй Касценя» М. Аладава (лібрэта П. Глебкі). Два музычна-сцэнічныя творы напісаў за гэтыя гады Ю. Семяняка — гераічную музычную камедыю «Пяе «Жаваранак» (лібрэта Н. Калаптур) і оперу-паэму «Зорка Венера» (лібрэта А. Бачылы). Тэлевізійную оперу «Ранак» напісаў Г. Вагнер (па матывах паэмы А. Куляшова «Песня аб слаўным паходзе»). «Павел Карчагін»—опера П. Падкавырава па матывах рамана М. Астроўскага—атрымаў новую музычную рэдакцыю.

Са сваімі першымі операмі выступае і наша моладзь. Кім Цесакоў напісаў оперу «Рабінавая ноч» (лібрэта В. Лукшы па матывах раманаў І. Мележа); Алег Янчанка пазнаёміў беларускіх слухачоў з камернай операй «Балаганчык» паводле А. Блока (лібрэта Б. Луцэнкі); Сяргей Картэс піша оперу «Джардана Бруна» (лібрэта У. Халіпа).

З новымі балетамі выступілі Я. Глебаў і Г. Вагнер. «Выбранніца» напісана Я. Глебавым, лібрэтыстамі А. Вярцінскім і А. Дадзішкіліяні па матывах паэм Я. Купалы. Г. Вагнер стварыў балет «Пасля балю» па матывах аднайменнага апавядання Л. Талстога.

Трэба вітаць зварот кампазітараў Беларусі да ідэйна значных тэм, звязаных з нацыянальнай гісторыяй, з паэзіяй і літаратурай. З гэтага пункту гледжання выклікаюць цікавасць нашай грамадскасці і «Выбранніца» Глебава, і «Ранак» Вагнера, і «Зорка Венера» Семянякі, і «Заранка» Цікоцкага, і «Рабінавая ноч» Цесакова. Ёсць плён і ў пошуку сучаснага жанрава-стылявога вырашэння нацыянальнай тэматыкі. Тут смелыя намеры аўтараў павінны спалучацца з высокім прафесіяналізмам.

Відавочны творчы рост Г. Вагнера. Яго тэлеопера «Ранак» і балет «Пасля балю» сведчаць пра цікавасць аўтара да сур'ёзных і змястоўных творчых тэм. Кампазітар звяртаецца да высокамастацкіх літаратурных першакрыніц і, працуючы над праблемамі развіцця музычнай тэатральнай формы, значна ўзбагаціў сваё аркестравае пісьмо.

Дасягае поспеху і Я. Глебаў у «Выбранніцы», дзе адчуваецца багаты вопыт працы кампазітара ў галіне музычна-тэатральнай і сімфанічнай творчасці. І тут нельга не парадавацца яго цікавасці да высакароднай паэтычнай рамантыкі Янкі Купалы.

Прызнанне ў шырокіх колах слухачоў, музыкантаў заваявалі тэатральныя творы Ю. Семянякі. І аперэта «Пяе «Жаваранак», і опера «Зорка Венера» патрыятычныя па змесце, дэмакратычныя па музычнай мове. У параўнанні з першай операй Ю. Семянякі «Калючая ружа», якая з'явілася дзесяць гадоў назад, кампазітар зрабіў крок наперад.

Заслугоўвае ўвагі новая для беларускага музычнага тэатра камерная опера А. Янчанкі, зварот кампазітара да паэтычных вобразаў А. Блока.

Будзем спадзявацца, што оперная творчасць маладых кампазітараў дасць карысны плён і ўзбагаціць музычна-тэатральны рэпертуар артыстычных калектываў. Бо, шчыра кажучы, мы трымаем «на галодным пайку» наш оперны тэатр. Становішча склалася даволі цяжкае. Яго трэба пераадольваць калектыўнымі намаганнямі.

Адна з галоўных прычын недахопаў твораў для сцэны—творчы ўзровень працы сцэнарыстаў і лібрэтыстаў. Нам неабходна разам з Саюзам пісьменнікаў Беларусі пашыраць аўтарскі актыў літаратараў, якія б у садружнасці з музыкантамі і тэатрамі давалі высокаякасныя лібрэта.

У ГАЛІНЕ вакальна-сімфанічнай музыкі ў гэтае пяцігоддзе створана дзесяць кантат, чатыры араторыі, некалькі вакальна-сімфанічных паэм, песні, балады і канцэртныя арыі для голасу з аркестрам — творы патрыятычнай тэматыкі. Тут мы можам гаварыць аб сур'ёзных поспехах, можам ганарыцца дасягненнямі, бясспрэчным рухам наперад. Радасна, што да жанру вакальна-сімфанічнай музыкі звяртаецца наша моладзь.

Буйным дасягненнем беларускай музычнай культуры стала створаная да 50-годдзя Вялікага Кастрычніка кантата «Беларускія песні» А. Багатырова, твор магістральнага шляху развіцця гэтага жанру ў Беларусі. Усё найбольш характэрнае для стылю сталага майстра сканцэнтравана ў гэтай глыбока нацыянальнай кантаце. Любоў да роднай зямлі і народа, да песні і мовы народнай, багацце новых музычна- стылявых рысаў ставяць твор Багатырова на ўзровень лепшых дасягненняў кантата-аратарыяльнай творчасці сучаснай савецкай музыкі.

Сур'ёзныя працы ў кантата-аратарыяльных жанрах паказалі былыя вучні А. Багатырова. Кантата «Невядомы салдат» І. Лучанка з'яўляецца ўдачай, як і араторыя «Мая Радзіма» Д. Смольскага.

Сярод вялікіх вакальна-сімфанічных твораў на патрыятычную тэму — «Свяці, зара!» і «Званы» Я. Глебава, кантаты «Светлы шлях» і «Нёманскі край» І. Кузняцова, «Велічальная Мінску» Ю. Семянякі, «Я Леніна пяю» Э. Тырманд, «Беларускія сосны» А. Янчанкі, «Заўсёды з Леніным» К. Цесакова. Яркія маналогі пра Леніна напісаў А. Багатыроў. Значным поспехам Ю. Семянякі з'яўляецца песня «Ленінская праўда расквітае».

Але і ў гэтай галіне беларускай музыкі ёсць яшчэ нявырашаныя праблемы. Перш-наперш скажам пра ўзровень прафесіяналізму. Сумна назіраць часам, як нізкае прафесійнае майстэрства замінае аўтару глыбока раскрыць значную тэму. Трэба ўдасканальваць харавое пісьмо, узбагачаць поліфанічную тэхніку, упарта авалодваць арсеналам класічных сродкаў, шукаць новыя шляхі развіцця вакальна-сімфанічных жанраў.

У ПЕРАПЫНКАХ ПАМІЖ ПАСЯДЖЭННЯМІ З'ЕЗДА...


Першы сакратар ЦК КПБ П. М. Машэраў, кампазітар І. Лучанок, паэт У. Карызна і кампазітар Я. Глебаў.


Р. Шырма і госць з Ташкента М. Лявіеў.


М. Аладаў дае аўтографы.
Фота Ул. КРУКА.

# ПРА СЯБЕ І ТАВАРЫШАЎ

*НАТАТКІ БУДАЎНІКА*

Анатоль ДЗІК

**Анатоль Дзік — рабочы-арматуршчык — некалькі гадоў ужо выступае ў перыядычным друку. Сёння мы прапануем увазе чытачоў яго нарыс, які ўзнімае шэраг пытанняў, звязаных з практыкай будаўніцтва, культурай і побытам рабочых-будаўнікоў.**



складны, адвес, пяціметровую рулетку, чарцяжы і многае іншае, не лічачы цыгарэт і запалак. А ў штанах адна кішэня, і тая прышыта гнілымі ніткамі з левага боку, а ў яе акрамя пачкі цыгарэт з карабком запалак нічога не пакладзеш, а пакладзеш — кішэня адваліцца зусім, тады (асабліва летам) усе гэтыя прычандалы хоць ты ў якім кошыку насі. З тае прычыны і не нашу брэзентавую робу арматуршчыка.

## АБ'ЕКТЫ

Сёмы будаўнічы трэст некалі быў толькі аддзелачным трэстам. Два гады назад ён пачаў спецыялізавацца на унікальных будынках нашай сталіцы. Яго шматлікія аб'екты ў цэнтры Мінска, на ўскраінах, у Ждановічах, Заслаўі, на Мінскім моры і ў іншых месцах.

Мы закладваем падмурак, узводзім каробкі дома і адначасова капаем траншэі, ямы, наварочваем горы зямлі. У траншэі залазяць сантэхнікі, газаправодчыкі, электрамантажнікі — словам, генпадрадчык адкрыў фронт работы субпадрадным арганізацыям. А тыя падвозяць сюды свае апараты, механізмы, трубы, краны, вялізныя барабаны з электракабелем. З'яўляюцца газавікі са сваёй гаспадаркай. Тут, у гэты час, нават вопытнаму будаўніку не проста разабрацца што да чаго. Будоўля ў самым разгары: дымяць катлы, дзе варыцца бітум, гудзяць і сігналяць машыны з грузамі, гуркочуць бульдозеры і экскаватары. А нам, генпадрадчыкам, трэба падвезці і свае матэрыялы, бо як я сказаў вышэй, будоўля ў самым разгары: ні праехаць, ні прайсці. А план даваць трэба? Трэба. І даём, праўда, многае бярэцца на «ўра!». Такія ўмовы працы і нарадзілі ў будаўнікоў выраз: «круглае насі, плоскае — кантуй».

...БУ-34 трэста № 7 узводзіла дом для раённага аддзела міліцыі Фрунзенскага раёна. Я тут зрабіў сваю работу і мяне спешна перакінулі на другі аб'ект. Справа была напрадвесні. Восенню я ўспомніў, што там засталіся мае валёнкі і вырашыў іх забраць. Але вакол дома было наварочана столькі зямлі, выкапаны такія глыбокія і шырокія траншэі, што я не адважыўся і скакаць цераз іх, хоць некалі і меў другі разрад па гэтым відзе спорту. Ніякага пераходнага мосціка таксама не было.

— Эй, Дзік, прывітанне, — закрычаў знаёмы муляр з акна трэцяга паверха, выпэцканы ў алебастравы раствор. — Па валёнкі? Адсюль не пралезеш. Шыбуй на суседнюю вуліцу і — нацянькі, агародамі...

Нацянькі, агародамі я і дабраўся да той бытоўкі, праўда, даўшы добрага крука.

...Калі на будоўлі настае кульмінацыя, у дзве змены гудуць кампрэсары, і рабочыя ў два (чатыры) адбойныя малаткі з кулямётным строкатам б'юць дзіркі: для сантэхнікаў, вентылятаршчыкаў, газавікоў, электрамантажнікаў, электрыкаў, тэлефаністаў, радыстаў і яшчэ нямаведама для каго. Дзіркі б'юць у капітальных сценах, у надмурках, у перагародках, у міжпаверхавых перакрыццях... Глядзіш, і сэрца баліць, як у атынкаваных, а бывае і пабеленых сценах б'юць бясконцыя дзіркі. Тынкоўшчыкі вяртаюцца з верхніх паверхаў для рамонту нядаўна атынкаваных сцен.... А за імі зноў ідуць маляры. Колькі траціца дарэмна людской сілы, нерваў, матэрыялаў? Няўжо гэтыя, тройчы праклятыя дзіркі нельга аўтарам праектаў увязаць з усімі субпадраднымі арганізацыямі? А то не паспелі яшчэ першы паверх узвесці, а кампрэсар ужо тут як тут.

Цяпер скажыце мне, шаноўныя інжынеры-будаўнікі, чаму мы не можам падвесці адразу ўсе камунікацыі і забетанаваць падмурак? А потым паставіць вежавы кран, а трэба дык і два ці тры — і гані каробку гмаха? Тут так і пахне салідным эканамічным эфектам і ў час кульмінацыі на будоўлі не будзе вавілонскага стоўпатварэння.

Вельмі набалелае пытанне на будоўлі і пад'язныя пуці, як у нас кажуць, або дарогі. Машыны топяцца ў гразі. Шафёры клянуць нас на чым свет стаіць і не хочуць ехаць другім рэйсам. Няўжо невырашальная праблема падвезці дзесяць-дваццаць самазвалаў жвіру, шчэбеню ці якой другой жорсткай фракцыянаванай халеры і высыпаць на топкае месца ды разгладзіць, разраўняць бульдозерам? І каціся сабе шарыкам більярдным! І нам прыемна, і шафёрам добра, і тэмп работы на вышыні.

Домабудаўнічыя камбінаты Мінска на гразкае месца ўкладваюць панелі, а калі будоўля закончыцца, грузяць іх на машыны і перавозяць на новы аб'ект. Можа варта і нам прыглядзецца да сваіх калег і пераняць іх вопыт? І шыны, і машыны не будуць зношвацца без пары, і будоўлі плюс, бо добрая дарога — гэта не толькі спраўнасць і даўгавечнасць машыны, але і будаўнічы матэрыял, дастаўлены ў тэрмін і ў патрэбнае месца.

Добрым дарогам яшчэ ў глыбокай старажытнасці надавалі вялікае значэнне, хоць тады і не было машын. Егіпецкі фараон Хеопс, напрыклад, 30 гадоў будаваў сваю славутую піраміду: 20 гадоў з іх ён будаваў дарогу і толькі 10 гадоў самую піраміду.

## КАДРЫ

У апошнія гады на будоўлю прыходзіць шмат зялёнай моладзі з гарадскіх прафесійна-тэхнічных вучылішчаў. У рабочым калектыве любога ўпраўлення яны складаюць значную ўдзельную вагу. Аднак, шчыра кажучы, падкаваны яны вельмі няважна. Большасць доўга не можа самастойна выканаць нескладаную работу, прачытаць просты чарцёж.

З Брэсцкага ГПТУ пазалетась прыслалі нам ва ўпраўленне чатырох арматуршчыкаў. Хлопцы, што дубы. Усе метр восемдзесят ростам. Грывы, як у Махно. Гонару, як у індыка. Усе па другім разрадзе.

— Хлопцы, а вы кусачкі ў руках трымалі, звязаць сетку пад фундамент калоны ўмееце? — пытаюся іх.

— Скажа-аш, — хмыкнулі хлопцы. — Можам.

— Сетка ўжо разложана, — сказаў я ім, падводзячы да рабочага месца. — Як вяжацца сетка?

Маўчаць, пераміналоцца з нагі на нагу.

— Крайнія тры стрыжакі вяжуцца ва ўсіх месцах перасячэння па ўсім перыметры сеткі, а далей у шахматным парадку. Зразумела?

— А як жа...

— А вузлы вы можаце правільна закруціць?

— Пытаешся...

Усё ж такі, для ачысткі сумлення, я паказаў ім, як трэба правільна вязаць вузел, каб сетка не рассыпалася.

Хлопцы пагардліва ўсміхаліся, пераглядваліся, і на мой вузел не звярнулі ніякай увагі. Праз некалькі гадзін я прыйшоў праверыць іх.

— Начальнік, — сказаў адзін з іх, паплёўваючы на акурак. — Звязалі.

Я свіснуў яшчэ некалькі сваіх хлопцаў, бо сетка была вялікая і цяжкая, і загадаў падняць яе. Хлопцы паднялі і... сетка рассыпалася.

Чацвёрка касматых арматуршчыкаў азадачана ўтаропілася на мяне. Мае ж хлопцы паехалі са смеху.

Вучыў потым іх, як на ручным гібачным станку гнуць хамуты рознай канфігурацыі, як правільна размеціць прута, каб з яго атрымаўся патрэбных памераў хамут, ромб, кансоль і г. д. Вучыў іх, як збіраць і вязаць бэлькі, прагоны, рыгелі, рандбэлькі і г. д. Вучыў чытаць чарцяжы. Дакладней, вучыў так, нібы яны прыйшлі з вуліцы, а не з ГПТУ і ніколі не бачылі арматуры, станкоў па яе апрацоўцы на паўфабрыкаты, ніколі не трымалі чарцёж па арматуры, хоць бы самы простыя. Рабіць ім ужо вельмі не хацелася. На работу хадзілі цераз дзень, а то і раз у тыдзень. А неўзабаве разбегліся. А яны ж два гады вучыліся. Вось табе і кадры.

Не хачу сказаць, што з вучылішчаў выходзяць усе такія няўмекі. Не. Працаваў у маёй брыгадзе ў пятым трэсце Валерка Сызранцаў, які закончыў Мінскае ГПТУ-55. Хлопец добра разбіраўся ў сваёй прафесіі. Ужо на першых днях сваёй працы ў брыгадзе самастойна выконваў складаныя аперацыі, нядрэнна чытаў чарцяжы і заўсёды прасіў работу складаную, «каб было над чым мазгамі паварушыць».

Спадабаліся мне ў большасці сваёй і навучэнцы з Нова-Лукомльскага ГПТУ. Іх дваццаць чалавек прыслалі да нас на практыку (было гэта таксама пазалетась). Сустракаліся сярод іх і дапытлівыя, да ўсяго цікаўныя, спрабавалі нават варыць дугавой электразваркай. У некаторых атрымлівалася нядрэнна. Пад наглядам зваршчыка сёе-тое нават зварвалі.

Прыходзіць да нас і даармейская моладзь з вёсак, і дэмабілізаваныя воіны, прыходзяць і пажылыя людзі. Чаму яны ідуць да нас на будоўлю?

Частка даармейскай моладзі хоча атрымаць сталічную прапіску, каб пасля службы вярнуцца ў Мінск і, вядома, хочацца перад службай займець спецыяльнасць. А дэмабілізаваныя? Таксама спецыяльнасць і прапіску. І яшчэ таму, што ў нас ёсць інтэрнаты. А цяпер, ажаніўшыся, можна праз год—два атрымаць і кватэру з падменнага фонду, а некаторыя ўхітраюцца і праз паўгода вырваць гэты самы падменны фонд. Ну, а пажылыя? Тых цікавіць адно: пабудавацца ў кааператыве і бывайце здаровы! За паўтара-два гады яны бліскуча спраўляюцца з такой аперацыяй. А яшчэ тым прываблівае будоўля ўсе тры катэгорыі людзей, якія не валодаюць ніякай будаўнічай спецыяльнасцю, што тут можна зарабляць нядрэнныя грошы, бо праз які месяц чалавек, які ў нашай справе ні бэ, ні мэ, атрымлівае другі разрад (а больш настырныя дабіваюцца і трэцяга) і зарабляе амаль столькі, колькі і стары рабочы, які ў справах будоўлі зубы з'еў. На заводзе трэба некалькі месяцаў парабіць вучнем, толькі тады здасі экзамен на разрад. На агульнабудаўнічых работах, як бачыце, гэта не абавязкова.

А будоўлі растуць. Утвараюцца, арганізоўваюцца новыя будаўнічыя ўпраўленні, новыя будаўнічыя трэсты. І нашым будоўлям да зарэзу патрэбны рабочыя кадры высокай і рознай кваліфікацыі. Але ж ГПТУ не можа забяспечыць будоўлі спецыялістамі, і вось я думаю, чаму іх не рыхтаваць, гэтыя самыя спецыяльныя кадры на будаўнічай пляцоўцы, пры добрых майстрах сваёй справы? Сёе-тое робіцца ў гэтым напрамку, але вельмі мала. А праблему кадраў трэба неяк рашаць і не калі-небудзь, а зараз, сёння, бо будаўніцтву вунь якое значэнне надаецца, пачытайце Дырэктывы па новым пяцігадовым плане...

## ЗАРПЛАТА

Заработная плата будаўніка залежыць ад арганізацыі працы, ад своечасовай дастаўкі будаўнічых матэрыялаў на аб'ект, ад наяўнасці тэхнікі, ад згуртаванасці калектыву, ад спецыялістаў, ад добрасумленнасці і руплівасці кожнага члена брыгады, ад дысцыплінаванасці.

(Працяг на 10-й стар.).

---

Даніну з іх узяў, і немалую,
А тут не даплыву і да буйка.

Ды раптам побач голас, як набат:
— Паэт, спыні няслушныя дакоры
(Азвалася сярдзіта, грозна мора).
Не я, а сам ты ў гэтым вінават.

Як птушкі ў небе знаюць вышыню,
Як рыбы, што глыбей шукаюць воды,
Куды нясуць тае рачулкі водар,
Дзе ўчуялі прастор упершыню,—

Так і паэт. Ад ручайкоў, лугоў,
Ад тых дуброў, дзе рос і нарадзіўся,
Дзе песні пець ад маці навучыўся,
Плыві да акіянскіх берагоў.

Адтуль па непракладзеных слядах
Вяртайся зноў на любую рачулку
І заспявай па-свойму: шчыра, гулка
Пра белы свет і родны бацькаў дах.

## ШЛЯХІ-ДАРОГІ

*Уцякаюць хлопцы ў гарады...*
*Г. Бураўкін.*

Уцякаюць хлопцы ў гарады,
А за імі следам і дзяўчаты
З лёгкаю душой. У маладых
Шчэ няма тугі па родных хатах.

Кліча іх рамантыка дарог,
Вуліц мітусня, агні экранаў,
І здаецца нізкім той парог,
Дзе сустрэлі свой жыццёвы ранак.

Вабіць да сябе шырокі свет,
Што разбегся сотняй ручаінаў,
Мараць, як і мы,—праклaсці след
У прасторах любае Айчыны.

Нам няўцям было, як зараз ім,
У гады шчаслівага адлёту:
Пакідаем тое назусім,
Што не знойдзеш ні ў якіх шыротах:
Матчын сон, у квецені сады,
Размаіты спеў птушынай стаі,
Цішу вёскі, у якой заўжды
Хаты вокнамі да сонца ставяць.

Праляцелі ў мітусні гады...
З болем адчуваем горыч страты,
І вярнуліся б цяпер туды,
Ды няма ўжо ні бацькоў, ні хаты.

Як пераплывеш глыбінь-раку
І зваротны шлях аж да вытокаў,
Пастаіш на пяцібальным скразняку,
Вып'еш горкі кубак першаку, —
Зразумееш кошт сваіх уцёкаў.

## НАДВЯЧОРКАМ

Уранні прада мной ляжала мора,
Як непачаты ліст, як непражыты дзень...
Аднакалёрным вокам светафора
Буёк мігаў, гайдаўся на вадзе.

А калі сонца падышло к зеніту,
Цяпло аддаўшы пожням і лясам,—
Як лепшая з прыгожых юрмалстрытаў
На мора легла з промняў паласа.

Пaціху над зямлёй збіраўся вечар,
Канчаўся летні дзень, даўгі, як год,
А сонцаў шлях усё ярчэй адсвечваў,
Іскрыста ззяў, хоць блізіўся заход.

І чалавек, што для сваёй Айчыны
Утворыць мора з кропелькі малой,
Падобны сонцу ў небе, бо пакіне
Праменную дарогу за сабой.

# НА ТОРНЫ ГАСЦІНЕЦ

«ПУЦЯВІНЫ роднага слова»... Пра што ж расказвае гэтая кніга? Пра тое, як у цяжкіх умовах другой паловы XIX—пачатку XX стагоддзя развіваўся беларускі кнігадрук, пашыралася на беларускіх землях перыёдыка. Усё гэта так, і ў той жа час падобнае вызначэнне будзе няпоўнае, аднабаковае. Гэта кніга і пра станаўленне і развіццё ў надзвычай цяжкіх, неспрыяльных умовах нашай культуры, пра тых самаахвярных, шчырых людзей, якія сумленна рабілі ўсё магчымае і немагчымае, каб не даць загінуць роднаму слову, каб абуджаць нацыянальную свядомасць свайго народа. Кніга і пра развіццё грамадска-палітычнай думкі на Беларусі. Не абыходзіць С. Александровіч і праблемы ўзаемадзеяння і ўзаемаўплыву беларускай культуры таго часу з культурамі суседніх народаў, у першую чаргу, польскай і рускай.

Такім чынам, кола пытанняў, якія ўзняў С. Александровіч у сваёй працы, вельмі шырокае. Адразу адзначым, што аўтар паспяхова справіўся з тымі задачамі, якія ён ставіў. «Пуцявіны роднага слова» ад першай да апошняй старонкі чытаюцца з неаслабнай увагай, цікавасцю.

Кніга С. Александровіча мае тры раздзелы. У першым разглядаецца літаратурна - грамадскі рух на Беларусі ў другой палове XIX стагоддзя, другі і трэці раздзелы прысвечаны XX стагоддзю — кнігадруку і перыёдыцы. Такая кампазіцыя кнігі апраўдваецца. XIX стагоддзе было яшчэ досыць беднае на факты культурнага жыцця, таму даследчык разглядае і перыёдыку, і кнігадрук, і сам літаратурны працэс у адзінай плыні. Зусім іншае — пачатак XX ст., асабліва з перыяду першай рэвалюцыі. Гэта быў час, калі досыць бурна развіваецца беларуская перыёдыка, сістэматычна з'яўляюцца беларускія кнігі.

Пачынае сваё даследаванне С. Александровіч з характарыстыкі грамадска - палітычнага становішча на беларускіх землях напярэдадні рэформы 1861 г. і паўстання 1863—1864 гг. Ён слушна адзначае, што гэта эпоха была вельмі супярэчлівая. У асяроддзі шляхты і народных мас выспявалі тыя ідэі, якія пазней выявіліся ў паўстанні. З другога боку, палітычна заняволеная Польшча ў ідэалагічных і культурных адносінах працягвала панаваць на землях Беларусі, разглядала беларускія землі (таксама ўкраінскія і літоўскія) як неад'емную частку былой Рэчы Паспалітай, а нашыя народы толькі як асобныя галіны «адзінага польскага племені».

Зразумела, усё гэта не садзейнічала абуджэнню нацыянальнай свядомасці, хутчэй наадварот. Тым не менш, як вельмі пераканаўча паказваецца ў кнізе, ужо тады інтэлігенты-беларусы Р. Друцкі-Падбярэзкі, В Дунін-Марцінкевіч, Ул. Сыракомля і іншыя нястомна шукалі больш дзейсных сродкаў, метадаў развіваць родную культуру. Яны настойліва дамагаліся дазволу перыядычнага друкаванага органа на беларускай мове. Гэта тыя людзі, якія пры больш спрыяльных умовах маглі б зрабіць для роднай культуры ў некалькі разоў больш, чым яны зрабілі. І калі ўжо мы пачалі пра іх гаворку, то хочацца падкрэсліць, што варта быць больш паслядоўнымі і лічыць такіх дзеячоў прадстаўнікамі беларускай культуры. Не іх віна, а бяда, што беларускае слова было пад забаронай і свае працы пра Беларусь яны вымушаны былі выпускаць на рускай ці польскай мовах. Я маю на ўвазе перш за ўсё такіх дзеячоў, як Чачот, Я. Баршчэўскі, браты Тышкевічы, Кіркор, Храпавіцкі, Друцкі-Падбярэзкі, Шпілеўскі і інш.

Значнае месца ў першым раздзеле адводзіцца падзеям 1863—1864 гг. і першым беларускім перыядычным выданням, што былі звязаны з гэтымі падзеямі — «Гутарцы двух суседаў» і «Мужыцкай праўдзе». Калі пра «Мужыцкую праўду» ў нас пісалі ўжо шмат, то «Гутарка двух суседаў» вядома яшчэ мала. Александровіч дае гэтаму выданню глыбокую, усебаковую характарыстыку, адзначае і моцныя бакі «Гутаркі...» і яе абмежаванасць.

Пераканаўча вядзе гутарку даследчык і пра «Мужыцкую праўду», дае характарыстыку поглядам Каліноўскага, ацэньвае паўстанне 1863—1864 гг. Праўда, гэтыя старонкі некалькі ўступаюць папярэднім. Справа ў тым, што падзеям паўстання і асобе Каліноўскага прысвечана адносна шмат прац—сярод іх найбольш грунтоўная Г. Кісялёва. Таму Александровіч закранае падзеі паўстання і асобу Каліноўскага толькі ў той ступені, у якой гэта было неабходна для раскрыцця яго тэмы.

Асабліва багатыя на факты, глыбокія па характарыстыцы заключныя часткі раздзела, у якіх даследчык гаворыць пра падзеі грамадскага і культурнага жыцця апошніх дзесяцігоддзяў XIX стагоддзя.

Цікава расказваецца ў кнізе пра беларускіх народнікаў і іх часопіс «Гоман». Гоманаўцы ў сваіх працах тэарэтычна імкнуліся абгрунтаваць права беларускага народа мець школы, газеты і кнігі на роднай мове. Характарыстыка часопіса «Гоман» у кнізе С. Александровіча вельмі глыбокая, яна, па сутнасці, першая ў нашым літаратуразнаўстве. С. Александровіч робіць вывад, што ў асяроддзі беларускіх народнікаў паступова, але настойліва развіваліся ідэі «беларускасці», разуменне адметнасці свайго гістарычнага мінулага, расла заклапочанасць тагачасным становішчам беларускай культуры, заўтрашнім днём беларускай нацыі. Спыняецца аўтар і на характарыстыцы (хоць і вельмі сціслай) найбольш вядомых дзеячоў беларускага народніцтва, такіх як А. Марчанка, Д. Баравік, Шчыры Беларус і інш.

Вялікае пазнавальнае значэнне мае і тая частка кнігі, дзе аўтар расказвае пра беларускія выдавецтвы і перыёдыку пачатку XX ст. З працы С. Александровіча відаць, што такіх выдавецтваў было досыць шмат, хоць некаторыя з іх і змаглі выпусціць толькі па некалькі кніг. Самыя значныя сярод гэтых выдавецтваў—«Загляне сонца і ў наша аконца», «Наша ніва», «Беларускае выдавецкае таварыства» і інш.

У XX ст. на Беларусі вельмі бурна пачала развівацца перыёдыка на рускай і часткова на польскай мовах. «Беларускае пытанне» ўвесь час горача абмяркоўвалася на старонках гэтых газет. Газеты, якія ў цэлым былі прагрэсіўнага, дэмакратычнага кірунку, станоўча ацэньвалі беларускія выданні, у той ці іншай ступені падтрымлівалі беларускі культурны рух. Чарнасоценныя афіцыйныя выданні выступалі адкрыта супраць прагрэсіўнага руху, свабоды слова, агульнадэмакратычных свабод. Заканамерна, што асноўную ўвагу даследчык аддае газетам прагрэсіўнага кірунку («Минский листок», «Северо-Западный край», «Жизнь провинции», «Окраина», «Минский курьер» і інш.). Некаторыя з гэтых выданняў, асабліва «Минский курьер», асвятлялі нацыянальнае пытанне на Беларусі. Супрацоўнікі «Минского курьера» Ул. Самойла і Н. Чарноцкі настойліва і прынцыпова абаранялі ў сваіх артыкулах права беларускага народа на нацыянальную школу, свабоднае развіццё сваёй культуры. Газета нават знаёміла часта сваіх чытачоў з творамі беларускіх пісьменнікаў. Роля газеты ў прапагандзе беларускай культуры была значная.

Найбольш увагі, гэта і зразумела, аддае С. Александровіч газетам «Наша доля» і «Наша ніва». Ён апісвае, характарызуе ўмовы існавання «Нашай нівы», штат супрацоўнікаў, кола карэспандэнтаў і падпісчыкаў, тыя пытанні грамадскага і культурнага жыцця, якія ставіла газета ў кожны перыяд свайго існавання. Нягледзячы на пэўную непаслядоўнасць (інакш яе напаткаў бы лёс «Нашай долі»), «Наша ніва» выступала за дружбу народаў, за развіццё нацыянальнай культуры, за агульнадэмакратычныя пераўтварэнні.

Якое ж уражанне пакідае кніга? Ці задавальняе яна чытача? Безумоўна, так. У той жа час трэба зазначыць, што пастаўлены яшчэ далёка не ўсе кропкі над «і», уперадзе шмат работы. Гэта, безумоўна, не папрок С. Александровічу і яго працы. Аўтар зрабіў вельмі шмат. Але пры чытанні ў мяне, напрыклад, узнікла жаданне ведаць больш пра жыццё, лёс такіх людзей, як А. Марчанка, Д. Баравік, Тарэза Гардзялоўская, Ул. Самойла, Н. Чарноцкі, некаторых так званых «масавых» паэтаў «Нашай нівы» і іншых, тых, хто выкарыстоўваў кожную магчымасць, каб працаваць на ніве роднай культуры. Гісторыя ж наша XIX — пачатку XX ст. захавала не так ужо шмат імёнаў, таму тым больш для нас павінна быць дарагое кожнае імя.

Некаторыя пытанні аўтар вырашае, на мой погляд, некалькі спрошчана. Так, С. Александровіч папракае «Нашу ніву» за тое, што яна выказвалася, каб набажэнства сярод беларусаў у царкве і касцёле весці на беларускай мове. Але ж гэта было ў той час, калі многія беларусы яшчэ вызначалі сваю нацыянальнасць па веравызнанні (праваслаўным і каталіцкім).

Хочацца таксама папракнуць аўтара за тое, што ён мала аддаў увагі такім пісьменнікам, як Я. Лучына, А. Абуховіч, Ф. Тапчэўскі, А. Гурыновіч, М. Косіч, не паказаў іхняе ролі ў развіцці нацыянальнай культуры.

Увогуле ж мы шчыра ўдзячны аўтару за падарожжа па пуцявінах роднага слова.

М. ПРАШКОВІЧ.

С. Александровіч. «Пуцявіны роднага слова». Выдавецтва БДУ імя У. І. Леніна. Мінск. 1971.

# ПОШУКІ СУТНАСЦІ

СТАЛАСЦЬ паэтычнага думання, відаць, праяўляецца перш за ўсё ў глыбіні вобразнага асэнсавання адвечных, як свет, тэм — жыцця і смерці, любові і нянавісці. Узровень мастацкага вырашэння названых тэм, думаецца, у любым выпадку можа быць даволі аб'ектыўным крытэрыем пры вызначэнні грамадскай значнасці і арыгінальнасці кожнага паэтычнага даравання. Гэта зусім правільна і ў дачыненні да пачатку творчай біяграфіі.

Алесь Разанаў сваёй першай кніжкай вершаў адкрывае перад намі свет высокіх і непадкупна чыстых парыванняў савецкага чалавека ў самых складаных і разнастайных праявах жыцця. Перш за ўсё паэт гаворыць пра шчырую, святую сыноўнюю любоў да Радзімы, пра высокі грамадзянскі абавязак перад ёю:

**Радзіма, у нашых учынках магчыма,**
**не ўсё як след.**
**Мо не заўсёды тое робім,**
**што трэба рабіць,**
**толькі заўсёды святое імя тваё ў нас гарыць.**
(«Радзіме»).

Вышэйшым крытэрыем пры вызначэнні каштоўнасці чалавечых паводзін і ўчынкаў для А. Разанава з'яўляецца жыццё вялікага Леніна:

**Ён самае галоўнае,**
**што ёсць у нас,**
**што маем.**

**Сілаю ягонай**
**свет пераўтвараем.**
(«Ленін — гэта мы»).

Святлом ленінскай чысціні і бескампраміснасці, высокай класавай і грамадзянскай свядомасці пазначаны вершы паэта «Не, не прагну я долі лепшай», «Фарбы», «Змагар», «Воля», «Празорца», у якіх асэнсоўваецца героіка змагання пад «чырвоным сцягам, чырвоным — да канца!» Гэта вершы-мініяцюры, у якіх выяўлена важкая думка праз імгненную плыннасць гарачага чалавечага пачуцця. Адначасова яны ўспрымаюцца і як фрагменты будучага эпічнага твора, скажам, пра герояў Брэста ці пра няскоранасць нацыянальнага духу перад тварам самых цяжкіх выпрабаванняў у гістарычным лёсе савецкіх народаў. Да таго ж, аб'яднаныя агульнай ідэяй і размешчаныя адзін за адным у кніжцы, пералічаныя мініяцюры складаюць своеасаблівую нізку вершаў, у якой праявіліся значныя патэнцыяльныя магчымасці аўтара ў распрацоўцы такой сур'ёзнай і адказнай тэмы, як самаахвярнасць гераізму і высакародства подзвігу ў імя Радзімы, у імя чалавецтва.

Эстэтычнае крэда паэта пры мастацкім асэнсаванні гэтай тэмы выступае выразна. Акрамя таго, яно грунтоўна падмацоўваецца і такімі вершамі, як «Паганіні», «Тамоза Кампанела», дзе хораша гаворыцца пра сэрцам усвядомленую барацьбу дзеля высокіх ідэалаў і вялікай будучыні. І толькі ў вершы «Які запал!..» можна заўважыць супярэчнасць у аўтарскай пазіцыі паміж парывам усвядомленай неабходнасці і чыста эмацыянальным памкненнем «забыўшы ўсё... аддацца хвалям лёсу». Менавіта па прыкмечанай супярэчнасці ды яшчэ па двух-трох вершах яўна літаратурнага паходжання («Бяроза-Картузская», «Спякота», «Ноч гасіць у вокнах агні») можна здагадвацца аб маладосці паэтычнага таленту А. Разанава. Пра тое ж сведчаць і русізм «каней» замест беларускага «коней» і «кульгавая» рыфма «скуль чуць — чуць-чуць».

Трэба, аднак, сказаць, што ў цэлым Разанаў добра валодае вершаванай «тэхнікай». Верш яго багата інструментаваны, рытмічна скандэнсаваны, пафасны да закліку. Нават самыя класічныя памеры (ямб, харэй) падпарадкуюцца ў паэта стыхіі акцэнтнага верша. Імклівы, напружана-драматычны рытм набывае індывідуальную адметнасць дзякуючы частаму вынясенню ў пачатак радка слоў, на якія падае найбольшая сэнсавая нагрузка не толькі ў асобным рытмарадзе, але і ва ўсім вершы. Сіла націску ў гэтых словах намнога вышэй, чым у суседніх, а калі і не вышэй, то сэнсавая значнасць іх, як правіла, падкрэсліваецца рытмічнай паўзай. Цікава, што ў пачатак радка выносяцца пераважна дзеясловы. Пры тым вельмі часта гэтыя дзеясловы выступаюць у якасці лексічнай або сінтаксічнай анафары («Раўлі ўстрывожана марціры, блішчэлі косы і штыкі... Ішлі на славу камандзіры, ішлі па волю мужыкі...»). Менавіта з гэтай прычыны ў рытме разанаўскага верша такая нястрымная сіла руху. І менавіта ў гэтым бачыцца мне яго доля ў абнаўленні класічнага беларускага верша. Зразумела, тут няма перабольшвання. Справа ў тым, што падобныя рытмічныя ходы ў іншых беларускіх паэтаў сустракаліся толькі спарадычна, а ў Разанава яны выступілі ў якасці рытміка - інтанацыйнай сістэмы і сталі выразнай прыкметай індывідуальнага стылю.

Прыемна адзначыць, што рытміка - інтанацыйную адметнасць свайго верша А. Разанаў заўсёды падпарадкоўвае выяўленню глыбіннай сутнасці той з'явы, якая стала прадметам паэтычнага пазнання. Можа па гэтай прычыне ў лепшых творах паэта так хораша суседнічаюць развага і пачуццё, канкрэтнасць успрыняцця і філасафічнасць асэнсавання. Паглядзіце, як натуральна пераходзіць паэт ад захаплення першароднасцю адчування да філасофскага абагульнення ў вершы «Вытокі»:

**Там** (у лясах — І. Р.) **гуляе**
**ў пазалоце**
**з рыжым промнем**
**да цямна**
**на вярбе пушысты коцік,**
**быццам з ніткай кацяня.**
**Любата...**
**Брыдзем узмежжам**
**нетаропка,**
**без турбот...**
**Ды прывабіць непазбежна**
**ў сталасць мудрую**
**зварот...**

Свежасцю думкі, неўтаймаванай прагай пазнання і глыбінёй адчування палоняць нашу ўвагу вершы паэта пра ўзаемаадносіны чалавечага быцця і прыроды («Дрэвы», «Лес»), пра тужлівы лёс нялёгкага кахання («Безаглядна размінёмся», «У вёсачцы — бог яе крые...»). Дарэчы, падобнай якасцю валодаюць і вершы паэта, апублікаваныя ў трэцім нумары «Маладосці» за гэты год.

Разам з тым у іх ужо выразна выступаюць і новыя прыкметы імклівага ўзмужнення таленту паэта. Яны праяўляюць сябе перш за ўсё ў яшчэ большай скандэнсаванасці і адкрытасці думкі і пачуцця, у значным павелічэнні каштоўнай паэтычнай інфармацыі на кожнае слова ў радку.

Тут мы бачым пераканаўчае сведчанне паглыблення інтэлектуальнасці і публіцыстычнай завостранасці вершаў А. Разанава і адначасова — сур'ёзную прыкмету ранняй сталасці паэтычнага мыслення. Таму, думаецца, небяспека «памыліцца і па чужых пайсці шляхах» (верш «Пошук») паэту не пагражае.

Гарачае жаданне ва ўсім дайсці да самай глыбіннай сутнасці (пазнаць і прыняць ці пазнаць і адмовіць у імя высокіх ідэалаў камунізма) характарызуе паэзію Разанава з найлепшага боку: яна — «вяшчае жыццё, абвяшчаючы бой».

Іван РАЛЬКО.

А. Разанаў. «Адраджэнне». Мінск. Выдавецтва «Беларусь», 1970.

# ПРА СЯБЕ І ТАВАРЫШАЎ

(Заканчэнне. Пачатак на 6—7 стар.)

Летам я вязаў арматуру газасховішча на будаўніцтве прафтэхвучылішча завода «Буддэталь». У вучэбным корпусе для сантэхнікаў трэба было прабіць дзіркі (зноў, як бачыце, дзіркі). Шмат дзірак, куды сантэхнікі прасунуць трубы. Паставілі на гэтую работу трох хлопцаў з ломікамі і кувадламі. Дзяцюкі цэлы дзень снавалі па завуголлі, тачылі лясы з маладымі тынкоўшчыцамі, перашкаджаючы ім працаваць. Потым адзін схітрыўся «зачарніліць», г. зн. выпіў бутэльку віна і палез на дах загараць. Так прайшоў іх рабочы дзень, за які яны прабілі па дзве дзіркі. Трэці, яшчэ зялёны «фабзаяц», значна слабейшы за сваіх сяброў, цэлы дзень старанна дзёўбаў ломікам панелі міжпавярховых перакрыццяў і прабіў цэлую плойму гэтых самых дзірак. Але зарплату ён атрымаў меншую за тых двух гультаёў. Чаму? Бо ў «фабзайца» быў другі разрад, а ў яго таварышаў трэці. І яму і яго таварышам-гультаям у табелі выхадаў праставілі па восем гадзін — поўны рабочы дзень. Руплівому хлопцу, безумоўна, крыўдна, але нічога не папішаш — разрад.

Праўда, цяпер становішча змянілася, бо ў брыгадах пры размеркаванні зарплаты ўвялі каэфіцыент працоўнага ўдзелу. Давайце разбяромся, што гэта такое?

Права вызначэння каэфіцыента працоўнага ўдзелу дадзена сходу членаў брыгады. На ім выбіраецца савет брыгады, які потым складае ведамасць размеркавання брыгаднага заработку па каэфіцыенце ўдзелу кожнага ў працы. Савет брыгады можа пазбавіць прэміяльных і прыработку за парушэнне тэхнікі бяспекі, брак у рабоце, прагулы без уважлівай прычыны і г. д. Як гэта атрымліваецца на справе?

У брыгадзе, скажам, 4 чалавекі маюць чацвёрты разрад і адпрацавалі па 168 гадзін у месяц. Іх сярэдні заработак згодна з тарыфам за гэты час склаў 105 рублёў. Калі падлічыць з каэфіцыентам працоўнага ўдзелу, становішча мяняецца. Першы працаваў добра і па рашэнні савета брыгады атрымаў каэфіцыент 1,5. Другі дапусціў брак у рабоце. Таму яго каэфіцыент раўняецца адзінцы. Трэці груба парушыў тэхніку бяспекі, і яму паставілі 0,5 каэфіцыента. Чацвёрты хоць і ўсе дні працаваў, але паказаў сябе адпетым лайдаком, і яго каэфіцыент склаў нуль.

Аднойчы я прысутнічаў у адной комплекснай брыгадзе пры размеркаванні каэфіцыента працоўнага ўдзелу.

— Кудравец, — звярнуўся прараб да маладога рабочага. — Ты пяць разоў на паўгадзіны спазняўся на работу. Абедзены перапынак у нас пачынаецца ў 12 гадзін дня. У гэты час ты ўжо ідзеш са сталовай. Некалькі разоў я сам гэта бачыў, а колькі не бачыў? Працуеш у нас ужо два месяцы, а дзе твой інструмент? У час работы многа балбочаш, таму і не глядзіш, як б'еш цвікі чужым малатком, таму і ўрэзаў сабе па пальцы.

Кудравец чырванее і хавае ў кішэню руку з забінтаваным пальцам.

Брыгада смяецца.

— Ну, дык колькі табе паставіць каэфіцыенту? — пытаецца прараб.— Колькі б ты сам сабе паставіў?

— Два мусіць замнога, — сур'ёзна адказвае Кудравец.—а паўтара можна ставіць.

Два — гэта максімум.

Дружны рогат дваццаці чалавек, здавалася, разваліць бытоўку. Сам прараб курчыўся ў крэсле.

Паставіць яму 0,5,—рашыў сход брыгады.

— Клава Траўніна. Працуе, як кажуць, дай божа кожнаму.

— Адзін і восем!

— Адзін і шэсць!

— Адзін і сем!

— Адзін і сем!

Савет брыгады пастанавіў Траўніпай паставіць адзін і сем каэфіцыента.

— Верабей працуе добра, але мае шэсць прагулаў па вельмі ўважлівай прычыне...

Прараб дастае з кішэні паперку і чытае:

— Тлумачальная запіска ад Вераб'я прарабу. Я зрабіў шэсць прагулаў. Прычына: пакуль аванс не прапіў — на работу не выходзіў.

— Нуль!

— Нуль!

Верабей атрымаў нуль каэфіцыента. Астатнія члены брыгады па паўтара, адзін і два, а брыгадзір 0,7 за тое, што ўвільваў ад работы. Ён нарабіў крыку, гвалту, біў кулаком сабе ў грудзі, даказваючы брыгадзе сваю руплівасць, але савет брыгады сваё рашэнне пакінуў у сіле.

На заводах рабочыя атрымліваюць трынаццатую зарплату. Атрымліваюць, канечне, лепшыя, тыя, што ўвесь год працавалі добра, не маюць ніякіх спагнанняў, не зрабілі ніводнага прагула. Ці няма такіх рабочых на будоўлі? Ёсць і вельмі многа.

Аднак вельмі цікава адкуль узяліся грошы на заводах для выплаты трынаццатай зарплаты? Яны, вядома, не зваліліся з неба. Вывад напрошваецца сам сабой: значыцца, заводы вынайшлі нейкія больш прагрэсіўныя формы стымулявання і планавання, і як вынік гэтага, і з'явілася трынаццатая зарплата. А можа яна выдаецца з якіх-небудзь іншых рэсурсаў, якія, магчыма, маюць і будоўлі? Як бы там ні было, але эканамістам, што працуюць у будаўніцтве, грэх не пацікавіцца такімі актуальнымі, такімі надзённымі пытаннямі, вартымі пераймання і ўкаранення ў нашай галіне.

## КУЛЬТУРА І ПОБЫТ

Некалькі гадоў таму на заводзе жалезабетонных вырабаў № 5 камбіната «Будмантажіндустрыя» прапісалася добрая традыцыя — традыцыя прысвячэнні моладзі ў рабочыя. Рытуал праводзіцца ўрачыста, цікава і на ўсё жыццё памяць зберажэ хлопцу гэты знамянальны, незвычайны для яго вечар. І няхай у яго жыцці потым будуць і больш яркія, важныя падзеі, але і на схіле гадоў сваіх ён з цеплынёй і хваляваннем будзе ўспамінаць той далёкі вечар юнацтва... Чаму б такую традыцыю не ўкараніць і на будоўлі?

Вельмі добра б было, каб і ў нас прыжылася традыцыя ўрачыстых провадаў ветэранаў будоўлі на пенсію: уручаць ім памятныя падарункі, граматы, каб на развітанні з працай чалавек яшчэ раз адчуў сваім сэрцам цяпло калектыву, дзе працаваў, удзячнасць людзей за яго сумленную і натхнёную працу.

Цяпер хачу спыніцца яшчэ на адным баку нашага жыцця, нашай працы.

Неяк у час перакуру да нас падышоў Верабей. Той самы Верабей, што не выходзіў на работу пакуль не прапіў аванс.

— Вязу сёння ў тралейбусе свайго грызуна ў дзіцячы сад, а ён, блазнюк, калоціць кулачкамі па касе. «Які ты, хлопчык, нехарошы...» паківала нейкая жанчына галавой, а мой грызун ёй: «Я харошы буду, такі, як мой татка: буду гарэлку піць і курыць!» Людзі ахнулі і засмяяліся, а мне — хоць стой, хоць падай. Добра, што не выпіўшы быў, а то, чаго добрага, і на самай справе падумалі б, што я адпеты алкаголік.

Мы пераглянуліся.

— А то еду з ім аднойчы з дзіцячага сада, — працягвае Верабей, — а на прыпынку грызун мой: «Татка, тут той магазін, дзе парашкі ад кашлю прадаюць. Я сюды з мамкай хадзіў. А нам з табой трэба ісці назад, у той вунь магазін, дзе прадаюць чарніла і папяросы».

У той жа дзень пасля работы, калі мы пераапраналіся ў бытоўцы, я незнарок падслухаў дыялог двух хлопцаў: Шуркі і Мішкі, якім па 17—18 год.

Шурка:

— Мішка, куды ты сёння пойдзеш?

Мішка:

— Адна кадра павінна пазваніць мне ў інтэрнат, але я з ёю не хачу хадзіць, бо ў яе ногі як палкі.

Шурка:

— Што табе баб мала? Хадзем на танцы — там як на вітрыне ў магазіне, якіх хочаш?

Мішка:

— А можа зазірнем у рэстаран?

Шурка:

— Ну яго к чорту! Зноў, як і тады да палучкі калуна ганяць будзем (г. зн. галадаць).

Мішка:

— А можа возьмем па пляшцы фруктовага і спаць?

Так яны і выйшлі з бытоўкі ні аб чым толкам не дамовіўшыся.

Назаўтра на работу з'явіўся адзін Мішка з зацыраванай шчакой і чырвоным вокам. Ён паказаў прарабу даведку, што вызвален ад работы, і падаўся ў інтэрнат рамантаваць сваё здароўе.

А «рамонт» праходзіў так. Пакуль Мішка прыехаў у інтэрнат, на стале ўжо стаялі дзве бутэлькі гарэлкі і закусь. За сталом сядзелі: Шурка, стары халасцяк з іхняга пакоя Грыша і Антось.

Шурка яшчэ два разы бегаў у магазін — пілі міравую з Мішкам. Назаўтра пахмяліліся півам і, апаражніўшы тры чамаданы з-пад бялізны, напакавалі іх пустымі бутэлькамі і панеслі здаваць.

У ёмістых чамаданах дзынькала і пазвоньвала шкло.

— Што, хлопцы, у творчую камандзіроўку сабраліся? — усміхнулася выхавацельніца.

— Але ж, — адказаў Антось. — За два месяцы, бачыце, колькі накапілася — амаль на дваццаць рублёў.

— І то грошы, — пазяхнула яна і перагарнула старонку кніжкі, якую трымала ў руках, седзячы побач з вахцёркай на мяккай канапе.

У інтэрнаце хлопцаў выхавацелі турбуюць мала. Яны ставяць галачкі ў сваіх планах, раз у год, бывае, звозяць чалавек трыццаць на якуюнебудзь экскурсію па горадзе ці за горад. Магчыма, што і лектар зазірне сюды, выступіць перад рэдзенькай аўдыторыяй, бо слухачоў гэтых не так і проста павыганяць з пакояў, і коціцца жыццё само сабой, па выбітай каляіне. Аклады выхавацелям сціплыя, работа ж вельмі складаная і далікатная, патрабуе яна не толькі спецыяльнай адукацыі, але і адпаведнага таленту педагога і арганізатара. Пасады ж выхавацеляў пераважна займаюць людзі выпадковыя, не звязаныя з педагогікай. Асабіста я ведаў выхавацеляў з прафесіямі агранома, заатэхніка і нават інжынера-лесавода. Чаму яны ішлі і ідуць выхавацелямі? Прапіска ў сталіцы, якая-небудзь кватэра, а там можна падацца і на такую работу, дзе плацяць удвая больш.

А наогул, ці патрэбны дарослым няньк? Думаю, што выхавацель з адукацыяй педагога, які ж да таго любіць моладзь і сваю прафесію, на маю думкую, прыносіць карысць і патрэбен для інтэрнатаў.

Аграномы, заатэхнікі і лесаводы на пасадах выхавацеляў, натуральна, лішнія, бо на педагагічнай ніве ні ў адзін хамут не лезуць, з'ядаюць зарплату і карысці ад іх—кот наплакаў.

Сустракаюцца ў будаўнічых інтэрнатах талковыя выхавацелі з адукацыяй педагога, якія любяць сваю справу, радуюць станоўчымі вынікамі сваёй працы, заваёўваюць аўтарытэт у моладзі. Такіх выхавацеляў стараюцца пераманьваць да сябе заводы для сваіх інтэрнатаў, там больш плацяць і даюць трынаццатую зарплату. Моладзь больш дысцыплінаваная і ёсць яшчэ нейкія прывілеі, якіх няма для выхавацеляў на будоўлі.

Так што нічога дзіўнага, што прадастаўленыя самі сабе хлопцы ад нуды і бяздзейнасці скідаюцца па рублі, надэбашыраць, потым наведваюць паліклініку і міліцыю, робяць прагулы, брыдка лаюцца. Наогул — вольніца.

Па пакоях рассяляюць хлопцаў як папала. Зялёныя «фабзайцы» жывуць з пажылымі. Большасць хлопцаў нічым не цікавяцца, п'юць, брынькаюць на гітарах альбо круцяць магнітафоны, транзістары, рэжуцца ў карты. Паспрабуй у такой абстаноўцы рыхтавацца да заняткаў у вячэрняй школе, тэхнікуме ці інстытуце? Ёсць, праўда, не ведаю толькі ці ў кожным інтэрнаце, пакой для навучэнцаў. А колькі ў тым пакоі размесціцца чалавек? Ну, пяць, ад сілы шэсць. А калі вучыцца ў інтэрнаце, скажам, чалавек пяцьдзесят? Дык хай бы і сялілі іх разам у пакой па чатыры чалавекі, але ж так не робіцца... І сёй-той уцякае на кватэру або кідае вучобу ці адкладае яе да лепшай пары.

Ёсць у некаторых інтэрнатах буфеты. Вечарам у іх можна паесці цёплай перабоўтанай бурды, якую прывозіць у тэрмасах са сталовай буфетчыца. На другое падаецца сухая, як жарства, грачаная каша і кіслая капуста. А калі пайсці ў тую ж сталовую, адкуль прывозяць ежу ў буфет, то паясі свежага, гарачага, каша там з падлівай або маслам — і ўсё гэта дзешавей і смачней.

Некаторыя хлопцы спрабуюць варыць самі, але гэта справа вельмі турботная і няўдзячная і забірае шмат свабоднага часу. Таму ў большасці хлопцы сілкуюцца з магазінаў, бо ў выхадныя ці святочныя дні сталовыя не працуюць, а калі дзе якая і працуе, як на аўтазаводзе ад рэстарана «Зубронак», то яна дарагая, гатуюць там нясмачна і трэба выстаяць кіламетравыя чэргі. За адзін раз аддасі рубель з гакам і выйдзеш галодны і змучаны.

Каб станоўча вырашыць пытанне харчавання, халасцяку трэба ажаніцца, бо так, як прыгатуе талковая гаспадыня, любы кухар сталовай пазайздросціць. Аднак пытанне жаніцьбы — пытанне казытлівае, бо няма дзе жыць. Трэба вандраваць па чужых кватэрах, пакуль даб'ешся якога пакойчыка з падменнага фонду з кухняй на некалькі гаспадынь.

І яшчэ. Будучыя жонкі-гаспадыні жывуць у дзявочых манастырах, прабачце, інтэрнатах. Давайце зазірнем да іх у госці, напрыклад, на вуліцу Чырвоную, дзе жывуць дзяўчаты, што працуюць у будаўнічым трэсце № 7.

— Вы да каго?—строга і падазрона пытаецца ў хлопца вахцёрка і ацэньваючым позіркам разглядае яго, нібы цыган каня на рынку.

— Да Галі ў восьмым пакоі. Вазьміце мой пашпарт.

— Мне твой пашпарт не трэба. У мяне свой ёсць. Няхай Галя прынясе свой і пакладзе вось сюды, — адказвае вахцёрка, падцяўшы вусны.

---

## Паэтычная паверка

Уладзімір ФАМІН



### РУСКАЯ СЛАБАДА Ў ПАТСДАМЕ

Твая доля — не мёд,
Слабада.
Кожны дом —
Сведка горкага лёсу.
Пачарнелы ад вечнасці дах
І на сценах смала,
Нібы слёзы, —
Што, як боб,
усцілалі зямлю.
Вочы, поўныя слёзаў, —
вокны.
Рускі цар падарыў каралю
Харавую капэлу
з прыгонных.
Рад кароль.
Рада світа яго.
Патрабуюць няўмольна
канцэртаў.
Ды змікіціў кароль:
Ад чаго
Песні тыя
Гучаць сумна гэтак?
Аддае тэрмінова загад:
— Слабаду будаваць
для артыстаў...
І сасновых дамоў цэлы рад,
Як грыбоў,
На ўскраіне вырас.
Рускі вугал,
Як звон, бервяно,
Дом па-руску збудован,
З размахам.

— Дык паклічце яе. Калі ласка.

— Гм, разумны які знайшоўся. Многа тут вас, падшыванцаў, круціцца. Што ж я, па-твойму, для кожнага бегаць буду. А хто за мяне сядзець тут будзе і за парадкам сачыць?

— Ну, а як выклікаць яе?..— ледзьве не плача дзяцюк.

— Папрасі якую-небудзь кралю, што ідзе наверх. Можа яна і паслухае цябе.

Хлопцу пашэнціла. Нейкая прыгажуня выклікала яму каханую. Тая прымчалася з пашпартам.

Цяпер вахцёрка накінулася на Галю.

— Зараз толькі шэсць гадзін вечара. Няхай, можа, твой хахаль не ведае, а ты павінна ведаць наш распарадак. Пускаем хлопцаў толькі з сямі вечара да дзесяці вечара.

Галя са сваім Ванем ледзь не на каленях умольваюць вахцёрку, але тая і вухам не вядзе.

— Не прасіце, не пусціць,— пацягнуў за рукаў Ваню і Галю Пеця.— Я ўжо год як жанаты, штамп шлюбу стаіць на маім пашпарце, жонка з дзіцем сядзіць недзе ў пакоі, даю вахцёрцы свой пашпарт, а яна мне: «Няхай твая жонка свой пашпарт пакладзе вось тут». Вось і чакаю пакуль выйдзе мая Іра. А ёй, беднай, магчыма няма з кім малое на хвіліну пакінуць. А то нейкія каранціны накладваюць на гэты інтэрнат, тады і на парог не пускаюць. Колькі адных жанатых ходзіць да жонак на стрэлку!.. (г. зн. на спатканне).

І вось я думаю, навошта гэтыя манастырскія парадкі? Сціплая дзяўчына і так заўсёды будзе сціплай, сцеражы ты яе ці не сцеражы, а...

Гады тры назад прыйшла на будоўлю сарамлівая і вельмі прыгожая дзяўчынка. Пачуўшы лаянку, чырванела, патупіўшы вочы, адварочвалася. І здарылася так, што падружылася яна ў сваім пакоі з дваццацідвухгадовай дзеўкай, якая ўжо два ці тры разы пабывала замужам, зазірала ў кілішак. Дзякуючы такой дружбе, з сарамлівай Томай адбылася метамарфоза: праз некалькі месяцаў яна па прычыне і без мацярылася, піла гарэлку і аднойчы яе судзілі проста на аб'екце, у бытоўцы, таварыскім судом.

Калі яе паводзіны разбіралі пры добрай сотні людзей, Тома і не думала чырванець і каяцца. Яна стаяла ў крыклівай міні-спаднічцы і весела ўсміхалася. «Гляньце, якая я прыгожая! Што ў мяне за фігурка!» — гаварылі яе вочы.

На судзе пагаварылі і адпусцілі з богам. Назаўтра Тома, як быццам нічога не было, з'явілася на работу і ў першага стрэчнага хлопца папрасіла закурыць. Праўда, курыла хаваючыся.

З таго часу Тома пачала начаваць дома. Выходзіла на работу, але ў астатнім яна засталася такой жа, якой была да таварыскага суда. Вось табе і манастырскі рэжым! Аказваецца, хто захоча сабаку ўдарыць, той і палку знойдзе.

Выхоўваць трэба людзей, выхоўваць, а пра гэта мы часта забываем.

## БУДАЎНІК — ПРАФЕСІЯ МУЖНЫХ

З кожным годам прыгажэе наша беларуская сталіца, наш старажытны і юны Мінск, які, нібы казачная птушка Фенікс, паўстаў з попелу. Укладаем мы душу ў кожную будоўлю, у «свае аб'екты» і пакідаем у іх часцінку сваёй душы. Але прыходзіць час і мы развітваемся са «сваімі» гмахамі, бо чакаюць нас новыя месцы і новыя будоўлі. А будаўніцтва ідзе круглы год: у дождж і завіруху, у траскучыя марозы і летнюю спёку. І, як грыбы пасля цёплага летняга дожджыку, растуць школы і дзіцячыя сады, растуць новыя кінатэатры і палацы, растуць дамы і інстытуты, заводскія карпусы і цэлыя мікраараёны. Складаная і мужная прафесія будаўніка, поўная своеасаблівай суровай рамантыкі. І там, дзе прайшлі будаўнікі — паселіцца хатні ўтулак і простае чалавечае шчасце.

# ПАБРАЦІМСТВА

## БАЛГАРСКІЯ ГОСЦІ НА БЕЛАРУСКАЙ ЗЯМЛІ

ШЭСЦЬ ДЗЁН, якія правялі балгарскія госці на беларускай зямлі, — час невялікі і недастатковы, каб дэталёва пазнаёміцца з жыццём рэспублікі, з працоўнымі поспехамі народа, яго дасягненнямі ў галіне мастацтва і культуры. Але, як слушна сказаў адзін з гасцей, іх знаёмства з Беларуссю пачалося не цяпер, а даўным-даўно—па газетах і кнігах, кінафільмах і іншых творах мастацтва, па расказах тых, каму давялося пабываць у Беларусі раней. Цяпер жа, у гэтыя веснавыя дні, знаёмства працягвалася —сяброўскія сустрэчы, размовы, абдымкі, усмешкі, кветкі сталі сведчаннем вялікай еднасці і дружбы, узаемнай любві і павагі народаў-братоў.

Раніцой 19 мая балгарскія госці А. Босеў, Н. Зідараў, Г. Струмскі, Н. Янкаў і П. Дзімітроў-Рудар наведалі Курган славы і мемарыяльны комплекс Хатынь—прынеслі нізкі братні паклон памяці герояў і памяці ахвяр Вялікай Айчыннай вайны. Разам з балгарскімі пісьменнікамі былі літаратары з Масквы—паэты І. Такмакова і Ю. Карынец, крытык В. Бавіна, перакладчыкі В. Барысаў і М. Тарасава. У той жа дзень адбылася сустрэча і сяброўская размова ў Беларускім таварыстве дружбы і культурных сувязей з зарубежнымі краінамі. Аб рабоце Рэспубліканскага таварыства савецка-балгарскай дружбы і яго аддзяленняў гасцям расказалі намеснік старшыні праўлення таварыства В. Чарняўская, паэт М. Калачынскі, дацэнт БДУ імя У. І. Леніна Д. Мельцар і іншыя. А вечарам—у парку імя 50-годдзя Кастрычніка—госці мелі сустрэчу з піянерамі і школьнікамі беларускай сталіцы. З чытаннем твораў выступілі А. Босеў, Г. Струмскі, Н. Зідараў, П. Дзімітроў-Рудар, І. Такмакова, Ю. Карынец, а таксама беларускія пісьменнікі В. Хомчанка, А. Грачанікаў, Н. Гілевіч.

20 мая зранку госці наведалі Мінскі гадзіннікавы завод, а днём прынялі ўдзел у канферэнцыі, прысвечанай тэме ваенна-патрыятычнага выхавання ў дзіцячай літаратуры. На канферэнцыі выступілі І. Шамякін, А. Босеў, В. Хомчанка, П. Дзімітроў-Рудар, В. Бавіна, Э. Агняцвет, Н. Янкаў, Я. Брыль, І. Такмакова, Н. Зідараў, Г. Струмскі, Н. Карынец, П. Рунец, М. Аляксееў (работа канферэнцыі будзе асветлена на старонках штотыднёвіка). Вечарам гэтага ж дня ў памяшканні акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы адбыліся ўрачыстасці, прысвечаныя Дню балгарскай асветы, культуры і славянскай пісьменнасці. Адкрыў урачысты вечар старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі М. Танк. З дакладам выступіў паэт Н. Гілевіч. Слова прывітання ад гасцей сказаў кіраўнік балгарскай дэлегацыі А. Босеў. Вершы аб Балгарыі чыталі Н. Зідараў, Г. Струмскі, М. Калачынскі, Э. Агняцвет, Ж. Янішчыц. У заключэнне быў паказаны спектакль па п'есе А. Макаёнка «Зацюканы апостал».

21 і 22 мая госці правялі на Брэстчыне. Сустрэча ў педінстытуце са студэнтамі факультэта пачатковай школы аказалася для гасцей асабліва цікавай: усе ж яны працуюць у галіне дзіцячай літаратуры. Дзесяткі пытанняў самага рознага характару засведчылі глыбокую цікавасць беларускіх студэнтаў да Балгарыі і балгарскай літаратуры. На вечары выступілі Ул. Калеснік, А. Босеў, Н. Зідараў, Г. Струмскі, Н. Янкаў, П. Дзімітроў-Рудар, І. Такмакова, В. Бавіна, Ю. Карынец, А. Вярцінскі, А. Грачанікаў, Н. Гілевіч. Вершы гучалі на трох братніх мовах —балгарскай, рускай і беларускай. Другі дзень на Брэстчыне быў прысвечаны агляду Брэсцкай крэпасці і Белавежскай пушчы.

У нядзелю 23 мая гасцей сустракала Нясвіжчына. Спачатку адбылася размова ў райкоме партыі, у якой прынялі ўдзел сакратар РК КПБ М. Бабіч, старшыня райвыканкома Я. Ясючэня, рэдактар раённай газеты І. Тартоўскі, паэт П. Прануза. Госці наведалі рэспубліканскі санаторый «Нясвіж», агледзелі выдатнасці горада. Затым адбылася вельмі сардэчная сустрэча ў калгасе імя Калініна, дзе ёсць аддзяленне Таварыства савецка-балгарскай дружбы. Хлебам-соллю гасцей сустракалі 73-гадовы бондар, ганаровы калгаснік М. Шарапа і сакратар камсамольскай арганізацыі А. Кананові. Старшыня калгаса, кандыдат эканамічных навук Я. Аляксанкін расказаў аб дасягненнях гаспадаркі і перспектывах яе развіцця ў новай пяцігодцы. Госці агледзелі новыя збудаванні ў вёсцы Сноў, пабывалі ў кватэрах калгаснікаў.

24 мая балгарскія і рускія пісьменнікі наведалі рэдакцыі рэспубліканскіх дзіцячых выданняў — «Вясёлкі», «Бярозкі», «Піянера Беларусі» і «Зорькі». Днём гасцей запрасілі на сустрэчу піянеры ў дзіцячы парк імя Горкага, дзе мінскія школьнікі чыталі вершы балгарскіх паэтаў у перакладах на беларускую мову. У канцы дня адбылася развітальная сяброўская гутарка ў Доме творчасці імя Я. Коласа, у якой ад беларускіх літаратараў прынялі ўдзел М. Танк, І. Мележ, А. Грачанікаў, М. Ткачоў, А. Савіцкі, Я. Брыль, В. Быкаў, П. Кавалёў, Л. Прокша, А. Вярцінскі, Н. Гілевіч, М. Татур, Э. Агняцвет.

Вечарам гасцей сардэчна правялі ў дарогу.

Прапануем увазе чытачоў штотыднёвіка вершы балгарскіх сяброў у перакладзе на беларускую мову.

Нікалай ЗІДАРАЎ

### НА ЎСІХ ШЫРОТАХ ЧАЛАВЕК СПЯВАЕ

На ўсіх шыротах чалавек спявае!
Ці чорны ён, ці белы чалавек—
як сонца, мару свету адкрывае
аб тым, пра што маўчаў увесь свой век.
Аб тым, што ў сэрцы кроўю накіпела,
што мучыла гадзінаю ліхой,
пакуль ён не схапіў вінтоўку смела,
адчуўшы ў момант крылы за спіной.

На ўсіх шыротах чалавек спявае!
І з песняй зло ператварае ў тло.
Бярэ ён тое, на што права мае—
сваю зямлю,
паветра
і святло.
Прыблуд выпальвае штыком гарачым,
мацуе верай сэрца, і, як сцяг
над галавою з гордасцю ўзняўшы,
нясе высока сонца на руках.
На ўсіх шыротах чалавек спявае!

Георгій СТРУМСКІ

### ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР

Ён шморгаў навошчанай дратвай,
цвічкі малатком забіваў.
Абутак рабіў ён выдатна,
а кніжак амаль не чытаў.

Не меў аніякай асветы.
Ды вось ужо некалькі дзён
праўдзівай і смелай газеты
рэдактарам значыцца ён.

Пра славу пісьменніка зроду
за працай не марыў дарма,
а даў ён таварышам згоду
узяць для газеты імя.

Аднойчы на досвітку шэрым
ад груку прачнуўся шавец.
Урваліся «госці» ў кватэру,
у кожным паглядзе—свінец.

Газету прад ім разгарнулі,
чытаюць уголас імя.
Шавец усміхнуўся, пануры:
— Так, правільна ўсё, гэта я!

На допыце следчы ў сумненні
Рашыў яго з'едліва ўцяць:
— Дык ты і шавец і пісь-мен-нік!
Глядзі ты! І хто б мог сказаць!..

І мусіў «рэдактар» застацца
пад вартай—затое схаваў
пяро баявое змаганцаў,
якіх нават добра не знаў.

Каб праўда са шпальтаў газеты
грымела і клікала ў бой—
свой дар аддавалі паэты,
а ён засланяў іх сабой.

Тым часам газета выходзіць.
Ды ў вязня гатовы адказ:
— На месяц артыкулаў хопіць,
што я напісаў у запас!..

Пасля адпусцілі з-за кратаў,
і зноў ён вярнуўся ў свой дом,
каб шморгаць навошчанай дратвай,
цвічкі забіваць малатком.

Ды дзе ні працуе сягоння
той просты рабочы стары—
усё ж ён рэдактар галоўны
усіх нашых твораў, сябры.

Асен БОСЕЎ

### ДАНІК-ЗАБЫВАНІК

Ох, і смешны Данік—
Данік-Забыванік!

Пойдзе ў школу зранку —
Стоп!—ящчэ на ганку.
— Ну, чаго спыніўся!
— Гумку ўзяць забыўся!
Дойдзе да каліткі:
— Стоп! Забыўся сшыткі!
Пройдзе паўдарогі—
Зноў бяжыць што змогі
Да сваёй дамоўкі:
— Я ж забыў алоўкі!..

Дзеці ўсе чытаюць,
Буквары гартаюць,
Данік, быццам лішні,
Так сядзіць, без кніжкі.
— Што ж ты не чытаеш!
Буквара не маеш!
Падхапіўся хлопец,
Вочы ўніз таропіць,—
Сорамна, вядома:
— Ёсць... ды толькі дома!
Ах, ты, Данік, Данік,
Смешны Забыванік!
Скончыліся ўрокі—
Данік упрыскокі—
Выскачыў са школы—
Раптам крык вясёлы:
— Эй, ты што—зімою
Голай галавою!
Ты ж, здаецца, ўранку
Надзяваў вушанку!

Зноў турбота хлопцу:
Прэцца ў раздзявалку,
А вушанка з вешалкі:
— Што гэта за смешыкі!
Што гэта за жарты!
Кепскі гаспадар ты!
Што ты забываеш!
Што ты пакідаеш!

Ды ніякай шкоды
Тут не бачыць хлопец.
Да сяброў ля школы
Смела падыходзіць.

Раптам нехта жартам
Войкнуў і здзівіўся:
— Данік! Ты ж пад партай
Галаву забыўся!

Данік лэп рукою—
Лоб, і нос, і бровы...
— Вось яна, са мною!
Што ж я—безгаловы!

Ах, ты, Данік, Данік,
Дзіўны Забыванік!

З балгарскай пераклаў Ніл ГІЛЕВІЧ.

Калектыў Міністэрства культуры БССР выказвае спачуванне рэдактару аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў Карачуну Ю. А. з прычыны смерці маці.

Толькі песня сумуе ізноў,
Нібы звязаны крылы
У птахаў.
Не,
Напэўна, няўцям каралю,
Чаму песня не ўецца і сёння.
Бо у клетцы не пець салаўю,
Раны ў сэрцы
нічым не загоіш.

### ВЕСНАВАЯ СІМФОНІЯ

Вясна сваю сімфонію зайграла,
І раўчукі ўдарылі ў смычкі.

Алея наша
Гаманлівай стала:
Сюды дэсантаваліся гракі.
Ў прыродзе ўсё класічна,
Без мадэрна.
Нібы званок,
Жаўрук павіс ўгары.
Перад дарогай дальняй
Ля майстэрні
Пакашліваюць дружна
Трактары.





Мікола ЛУПСЯКОЎ

# МІХАЛАЎ ДУБ

АПАВЯДАННЕ

МІХАЛ прачнуўся вельмі рана. На дварэ было яшчэ змрочна, і зоры свяцілі ў вокны.

Барвавела зарава, спявалі пеўні ў дварах. Міхал прачнуўся праз тое, што прысніліся грыбы, і яму вельмі захацелася смажаных грыбоў. Ён ляжаў на ложку тварам да акна, пазіраў на неба і дзівіўся з гэтага свайго жадання. Ён думаў, што яно мінецца—так, прыгадаліся грыбы, дый і ўсё. Але чым больш ляжаў ён і чым больш думаў, тым выразней бачыў грыбы на патэльні, прыгадваў іх смак, іх пах... Думалася пра баравікі, падасінавікі, сыраежкі. Успамінаў, што Гарпіна, яго жонка, добра ўмее смажыць грыбы на алеі. Яна накрывае іх на агні крышкай, грыбы пускаюць пару. Пасля, калі іх ставяць на стол і здымаюць крышку, вада ўжо выпарылася, засталіся толькі грыбы ды крыху падлівы. Пах ад іх ідзе на ўсю хату. Міхал садзіцца за стол, разам з Гарпінай, бо больш з імі ніхто не жыве, і ўдвух яны ядуць грыбы відэльцамі з патэльні. Гэта ў іх, як свята. Перамаўляюцца пацiху пра розныя гаспадарчыя справы: успамінаюць дзяцей, знаёмых. Гарпіна—невысокая, увішная, з прыемным лагодным тварам. Яна—другая жонка ў Міхала. Міхал старэйшы за яе на дваццаць год. Ад першай жонкі, Аўдулі, ён мае траіх дзяцей, якія жывуць цяпер у гарадах. З Гарпінай яны нікога не прыжылі. Яна ветлівая, спагадлівая. Цяпер спала поплеч, а Міхал ляжаў і думаў. Яна спала тварам да яго, валасы былі раскіданыя па падушцы. На прыпухлых губах, брывах і вейках відаць была заспакоенасць спрацаванага чалавека. Міхал правёў далоняй па яе ілбе, пачаў перабіраць у пальцах пасмы яе сіваватых валасоў. Гарпіна перасмыгнула губамі, трывожна адкрыла вочы.

— Чаго ты, Міхал?—запыталася яна і прыўзнялася на локцях.

Вочы яе пазіралі насцярожана, і выраз твару быў устурбаваны. Ён успомніў, што ніколі яна не сказала яму ніводнага грубага слова, заўсёды дагаджае яму, а спіць вось так, як цяпер, увесь час насцярожана.

— Не спіцца нешта,—сказаў Міхал.—Добра было б грыбоў падсмажыць.

— Дзе гэта ты дастанеш цяпер тыя грыбы?—сказала Гарпіна.—Ляж, супакойся, засні.

Міхалу не спалася. Гарпіна даўно драмала, а ён ляжаў, пазіраючы, як за акном нараджаецца дзень. Думаў пра рознае. Пра калгас, пра знаёмых, пра надвор'е і ўраджай. Потым пачаў думаць пра грыбы. Дзіўна, калі захацеў грыбоў! На двары май, толькі што лес расцвіў. Але Міхал быў стары грыбнік. Ён ведаў, што ёсць і цяпер грыбы—страчкі. Гэта самыя раннія грыбы—страчкі. Калі пайсці ў лес, дык можна назбіраць.

Як добра ўвіднела Гарпіна, паднялася, пачала паліць у печы. Міхал таксама падняўся. Абуў боты, спаласнуў твар вадою, апрануў пінжачок, адшукаў пад лаваю кошык. Гарпіна моўчкі пазірала, як ён збіраецца. Запыталася:

— Куды ты?

— Пайду ў лес,—сказаў Міхал.— Страчкоў назбіраю. Гэта такія вясновыя грыбы. Ты ж ведаеш.

— Не ішоў бы, Міхал,—сказала Гарпіна.

— У лесе цяпер добра,—сказаў Міхал.—Чаму не пахадзіць. А страчкі павінны быць. Я ведаю добрыя мясціны.

Ён уважліва паглядзеў на Гарпіну, непакоячыся, што яна застанецца дома адна: Не хацелася пакідаць жонку ў адзіноце. Разумеючы яго настрой, Гарпіна сказала:

— Не ідзі, Міхал.

— Не, пайду,—сказаў ён.— Трэба схадзіць. Там, куды пайду, страчкоў заўсёды шмат.

Ён пастаяў у парозе, паглядзеў, як у печы заўзята шугае полымя, адчыніў дзверы, марудна выйшаў.

Раніца была ясная, цёплая. Спявалі шпакі ў садзе.

Міхал пастаяў, па-гаспадарску агледзеў двор. Куры ў карыце клявалі бульбу, скакалі ля іх вераб'і. Промні сонца асвятлялі двор...

Лес быў зусім недалёка. Ён пачынаўся адразу за вёскай. Міхал ішоў па дарозе паволі. Прыглядаўся да збажыны, што паднялася ўжо як не да калена, да лужкоў, што былі блізка ад дарогі. Там стаяла вада, па-веснавому крумкалі жабы, паважна хадзіў бусел блізка ад дарогі.

Міхал мінуў лужок, зайшоў у лес. На самай ускраіне рос вялікі дуб. Дуб быў магутны, з таўшчэзнымі галінамі. Міхал спыніўся пад ім, зняў кепку, задраў галаву—глядзеў на шаты. Потым, падумаўшы, сеў пад дубам.

Гэта быў яго дуб. Даўно, калі Міхал быў яшчэ малады, дуб пачаў сохнуць. Міхал толькі дзівіцца цяпер з самога сябе, маладога. Кожны дзень, раніцаю і ўвечары, ён прыносіў сюды два вядры вады, паліваў дрэва. Аднавяскоўцы кпілі з яго, маладога. Але ён не пакідаў свайго занятку. Пасля ўжо даведаўся, што трэба было паліваць толькі ўвечары. Але дуб ажыў. Аднавяскоўцы назвалі яго Міхалавым дубам, а там і пайшло па людзях. Хто едзе або ідзе па дарозе, заўважыць магутнае дрэва і скажа таму, хто не ведае: «Вунь на ўскраіне Міхалаў дуб».

Цяпер Міхал сядзеў пад гэтым дубам, дзівячыся, што ён нейкім незразумелым для яго чынам названы яго іменем. Цёплы вецер абвяваў Міхалаў твар. Было добра, утульна сядзець пад дубам, адчуваць спіною яго магутны шурпаты камель і пазіраць на камяністую дарогу, што была зусім блізка і вяла ў лес. Міхал сядзеў доўга, адчуваючы спакой і задаволенасць.

Потым ён пачуў дзіцячыя галасы. З лесу па дарозе ішлі школьнікі з партфелямі. Яны адразу ўбачылі Міхала і заціхлі. Міхал з цікавасцю разглядаў іх, потым пералічыў. Іх было пяцёра. Наперадзе ўсіх ішоў чырванашчокі высокі хлопчык, самы старэйшы. Дзеці ішлі ў школу.

Міхал паглядзеў на іх і на яго вуснах міжволі заблукала прыязная ўсмешка. Некалі і ён быў малы, гэта было даўно, але ён не хадзіў у школу. Працаваў разам з бацькам у полі на надзеле, змалку араў, скарадзіў. Потым, як прыйшла рэвалюцыя, дзяліў панскую зямлю. Пры калектывізацыі пайшоў у калгас. Тады ўпершыню ў сельсавеце загучала радыё. Радыё так спадабалася, што ён паставіў рэпрадуктар, кожны вечар тады ў хату збіраліся аднавяскоўцы слухаць навіны і музыку.

Падумаў, што сорамна жыць, не прачытаўшы ніводнай кнігі. Вучыўся ў лікбезе. Іх, барадатых дзядзькоў, вучыў грамаце шасцікласнік Аверка. Гэткі ж самы хлапчук, як і гэты, што ішоў цяпер першым. Смешна было, калі ён, пяцідзесяцігадовы чалавек, выводзіў сваімі вузлаватымі мазолістымі пальцамі літары на паперы.

Потым, як страціў першую жонку Аўдулю і ў яго было вялікае гора, пасварыўся з начальствам, кінуў калгас і пайшоў у горад цяслярыць. Колькі ён дамоў збудаваў тады! Яму падабалася гэтая праца, ён звыкся з ёю. З сякераю і рубанкам хадзіў ад двара да двара. Часаў бярвенні, складваў зрубы, ставіў кроквы, накрываў дах гонтай. А пасля зноў вярнуўся ў вёску, з торбай, у якой былі цяслярскія прылады. Пацягнула на зямлю. Адрамантаваў сваю хату, другі раз, пайшоў працаваць у калгас. Старшыня быў другі чалавек, гаспадарлівы. Гады за два Міхал абжыўся як след. Дзяцей ужо тады дома не было, вучыліся ў гарадах. Удвух з Гарпінай яны пасылалі ім пасылкі. Цяпер дзеці вучоныя. Старэйшы Савось інжынер, жыве ў райцэнтры, сярэдні Барыс ажно ў сталіцы, дырэктар птушкакамбіната, малодшы Патап таксама ў гэтым горадзе працуе слесарам. А Міхал застаўся ў вёсцы. Неяк ездзілі яны з Гарпінай у госці да сярэдняга, Барыса, дырэктара. Кватэра ў яго добрая, жыве багата, аднак жа Міхалу не спадабалася. Аб усё ён там спатыкаўся, за ўсё чапляўся, то за дыван, то за зэдлік, то за канапу. Нават ванны пакой не спадабаўся. Цесна, не тое, што ў лазні. А падымацца па лесвіцы на трэці паверх — гэта здалося бясконцым мучэннем. Праз тыдзень Міхал з Гарпінай паехалі, здзівіўшы гэтым сына з нявесткай...

Дзеці набліжаліся. Яны дайшлі да дуба, спыніліся.

— Добры дзень, дзядуля! — сказаў старэйшы.

— Добры дзень, — у адзін голас павіталіся яго сябрукі.

— Добры дзень, дзеткі, — адказаў ім Міхал і пагладзіў сваю сівую доўгую бараду.

— Адпачываеце? — запытаўся старэйшы.

— Адпачываю, дзеткі, — сказаў Міхал. — Вось ішоў і сеў адпачыць пад гэтым дрэвам.

— Пад Міхалавым дубам, дзед, — сказалі дзеці.

— Але, пад Міхалавым, — згадзіўся Міхал.

— Колькі вам год, дзядуля?—запытаўся адзін з хлапчукоў.

— А ўжо за дзевяноста.

— Дзед, а царскую ўладу вы помніце?

— А як жа, усё помню, мае хлопчыкі. І царскую ўладу, і імперыялістычную вайну, і рэвалюцыю. Тады, пры царскай уладзе, на месцы той вунь вёскі, у якую вы ідзеце, лес быў. Дзе цяпер мястэчка, там панскі маёнтак стаяў. Поп жыў, царква была. Стражнік там таксама жыў і павятовае начальства. Павятовы старшыня, пісар. Яны падаткі збіралі.

— А хто не плаціў, дзядуля, што таму было? —запытаўся самы меншы чарнявы хлопчык, які стаяў збоку.

— У турму саджалі, дзеткі. Жабрачылі людзі, бедна жылі. А хадзілі ў лапцях, у чунях. Лыкам падпяразваліся. Плугоў не было, сахой аралі. Гаравалі людзі. Дабра не бачылі. Змалку за плугам хадзілі. У пана, у папа працавалі ў парабках. Боты на ўсю вёску былі адны, у старасты. Цяжка ўспамінаць, дзеткі, тое гаротнае жыццё. Гэта не тое, што цяпер. Цяпер вы і абутыя, і адзетыя, і ў школу ходзіце. І электрычнасць у нас усюды. І калгасы багатыя сталі. І клуб, і тэлевізары ў хатах. У мяне вунь сын дырэктарам птушкафабрыкі працуе. А раней хіба было такое? Раней пра гэта пры царах ды панах і не думалі. А як жа вы вучыцеся, дзеткі?

— Мы вучымся добра,—адказаў старэйшы.— Мы пойдзем, нам жа ў школу.

— Ідзіце, вучыцеся на здароўечка.

Дзеці пайшлі. Міхал сядзеў пад дубам і пазіраў ім услед. Як яны адышліся, малодшы павярнуўся і гукнуў:

— Дзед, а куды вы ідзеце?

— На грыбы.

Дзеці засмяяліся. Яны думалі, што дзед жартуе.

Міхал сядзеў доўга пад дубам. Блізка, цераз дарогу, раслі бярозы, цвіла чаромха. Пахла зелянінаю, кветкамі. Сонца, што ўзнялося высакавата над вёскаю, шчодра асвятляла паляну і лес за ёю. Міхал ужо і адпачыў як след, а ўсё сядзеў. Ён успамінаў, як у вайну разам з Гарпінаю яны хаваліся ў гэтым лесе ад карнікаў. Лес бамбілі, ён гарэў, а як стаяў тут фронт, дык ад яго засталіся адны пеньчукі, абгарэлае месца ды акопы. Дуб выжыў. Ён амаль адзін узвышаўся тады тут.

Як дзеці адышліся, Міхал уздыхнуў, падняўся, узяў кошык і пакіраваўся ў хвойнік. Хоць лес вырас пасля вайны, ён быў вялікі, у ім незнаёмаму чалавеку можна было заблудзіцца. Міхал ведаў усе мясціны і дзе тут растуць у хвойніку ды на выжарынах страчкі.

Ішоў Міхал і думаў пра калгас, пра знаёмых, пра дзяцей, што сустрэў, пра Гарпіну, пра калгасныя палі, пра тыя дамы, якія за жыццё пабудаваў. Ішоў сюды зусім хворы, а лес надаў яму сілы. Міхал увачавідкі ачуняў. Не кружылася галава, дужэлі рукі і ногі. Міхал міжволі думаў, што не толькі грыбы, а і гэты лес выгналі яго з дому.



# ПАЧАТАК УСІХ ПАЧАТКАЎ

*ДА 125-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ АБАЯ КУНАНБАЕВА*

**У гэтыя цёплыя, вясновыя дні шырокі казахскі стэп гасцінна прымае сваіх сяброў, якія прыехалі на святкаванне 125-годдзя з дня нараджэння вялікага казахскага паэта Абая Кунанбаева.**

**Абай нарадзіўся ў 1846 годзе ля падножжа Чынгісскіх гор, сярод качэўяў роду Табыкты, у сям'і ага-султана Кунанбая.**

**Першапачатковую адукацыю будучы паэт атрымаў у аульнага мулы. Калі Абаю споўнілася дзесяць гадоў, бацька на тры гады аддаў яго ў сяміпалацінскае медрэсэ. У гэтыя гады хлопчык знаёміцца з класікамі ўсходняй паэзіі: Фірдоусі, Нізамі, Саадзі, Хафізам і іншымі. Ён вывучае ўсходнія мовы, наведвае рускую школу, авалодвае рускай мовай. Незвычайная адоранасць, розум, прага да ўсяго новага дапамаглі яму паспяхова асвоіць галоўныя літаратурныя каштоўнасці Усходу. Насуперак волі бацькі, які імкнуўся зрабіць яго абаронцам інтарэсаў роду, ён выбраў цяжкі шлях паэта, барацьбіта за інтарэсы народа.**

**80-я гады мінулага стагоддзя сталі перыядам росквіту творчай дзейнасці Абая: ён паглыблена вывучае фальклор, творы ўсходняй літаратуры, рускую літаратуру, падоўгу працуе ў Сяміпалацінскай публічнай бібліятэцы. Тут Абай знаёміцца з палітычнымі ссыльнымі — паслядоўнікамі М. Г. Чарнышэўскага. Гэтае знаёмства аказала плённы ўплыў на светапогляд паэта.**

**Жыццё паэта было цяжкім, нянавісць стэпавых феадалаў пастаянна нагадвала яму, як жорстка і несправядліва пабудаваны свет. Да пачуцця адзіноты і расчаравання дадалося і цяжкае асабістае гора — смерць старэйшага сына Абдурахмана (1898), які закончыў Міхайлаўскае артылерыйскае вучылішча ў Пецярбурзе, і другога сына, таленавітага паэта Магаўі (1904). Разбіты горам, Абай памёр праз сорак дзён пасля смерці Магаўі.**

**Абай для казахскага народа — «пачатак усіх пачаткаў».**

**Як адзінокі карабель, нёс ён сярод акіяна цемры, невуцтва, дзікасці агні асветы, разумнага жыцця і сацыяльнай справядлівасці. Але немагчыма было пераадолець у адзіночку феадальна- патрыярхальныя ўстоі і невуцтва нават чалавеку з такім талентам, як у Абая.**

**І ўсё-такі Абай кінуў у сэрцы лепшых прадстаўнікоў свайго народа зерні прагі да ведаў, імкненне выйсці на вялікую дарогу сацыяльнага і культурнага прагрэсу.**

**Сваімі бессмяротнымі тварэннямі паэт заклаў асновы рэалістычнай пісьмовай літаратуры, ад яго вядзе пачатак казахская літаратурная мова. Літаратурную спадчыну Абая складаюць вершы і паэмы, вершаваныя пераклады празаічныя «Павучанні». Найбольш значная яго лірыка, насычаная глыбокім сацыяльным зместам, якая ахоплівае ўсе бакі жыцця народа.**

**Галоўная гістарычная заслуга Абая перад народам заключаецца ў тым, што ён першы на ўвесь голас загаварыў аб неабходнасці збліжэння з рускім народам, яго дэмакратычнай культурай. Ён быў непераўзыйдзеным перакладчыкам рус-**

# СУСТРЭЧА З УЗБЕКІСТАНАМ

Увечары 22 мая на Цэнтральнай плошчы Мінска загучалі ўзбекскія карнаі: па народным звычаі яны заклікалі людзей на свята. За некалькі хвілін запоўнілася зала і балконы Палаца прафсаюзаў.

На душы ў мяне свята. Да нас у госці прыехалі сябры з Узбекістана, якому я ўдзячна на ўсё жыццё за дабрату, шчырасць, нязменную дружбу з цяжкіх гадоў вайны.

Пачынаецца вечар, прысвечаны рэспубліцы сонца і бавоўны.

«Широка страна моя родная» — пад гэтым дэвізам на гэтай жа сцэне прайшлі вечары Літвы, Латвіі, Эстоніі, Арменіі, Грузіі, і ўсе яны былі прысвечаны 50-годдзю з дня стварэння СССР.

Дарагіх гасцей вітаюць хлебам-соллю і танцам «Лявоніха» дзяўчаты і хлопцы з Баранавіцкага ансамбля «Юнацтва», з баваўнянага камбіната імя ЛКСМБ.

Ім адказвае святочным танцам народны ансамбль Ташкенцкага тэкстыльнага камбіната. Нібыта ў вясёлцы пераліваюцца казачна-яркія фарбы Харэзма, Самарканда, Бухары і акварэльныя фарбы Беларусі.

Але спаборнічаюць не толькі танцоры.

Памочнік майстра тэкстыльнага камбіната Джура Юнусаў прымае выклік і заключае ўмову з баранавіцкім сабратам па працы Барысам Мухіным.

І тут у сур'ёзную размову ўмешваюцца дзеці: на сцэну выходзяць у пунсовых сукенках адзінаццаць мінскіх дзяўчынак, яны падносяць Д. Юнусаву лялькі для яго адзінаццаці дзяцей. У зале — смех, вясёлыя воклічы. Жартуе Кацярына Шастакова, былая партызанка, сакратар Рэспубліканскага камітэта прафсаюза беларускіх тэкстыльшчыкаў: «Барыс Мухін выйграе ў спаборніцтве калі выдасць замуж усіх дзяўчат сваёй брыгады!»

Лектар Карыма Махмудава расказвае пра жыццё сваёй рэспублікі, пра вялікае сяброўства ўзбекаў і беларусаў.

Я незвычайна хвалююся, калі расказваю гісторыю назвы адной з вуліц Ташкента. Там жыў у час вайны народны паэт Беларусі Якуб Колас, там пісаў ён свае паэмы і вершы, аблітыя крывёю сэрца. Цяпер вуліца носіць яго імя... А дружба працягваецца. На беларускай мове гучаць вершы Гафура Гуляма, Зульфіі, Уйгуна, Хаміда Гуляма, Мірмухсіна, апавяданні і раманы Абдулы Кахара, Айбека, Шарафа Рашыдава. На ўзбекскую мову перакладзены многія творы беларускай паэзіі і прозы.

І вось выступае кампазітар Манас Лівіеў, заслужаны дзеяч мастацтваў Узбекістана. Пранікнёна і горача гаворыць ён пра сваю любоў да Беларусі, да беларускай музыкі і да слаўных беларускіх будаўнікоў, якія самаахвярна працавалі ў Ташкенце ў час землетрасення і пабудавалі ў горадзе дзівосныя кварталы.

«Слова» перадаецца народнаму ансамблю танца Ташкенцкага тэкстыльнага камбіната. Яго майстэрству мог бы пазайздросціць самы дасканалы прафесійны калектыў.

Кіраўнікі ансамбля Маргарыта Акілава і народны артыст Узбекістана Ісахар Акілаў перадалі маладым танцорам сваю любоў да мастацтва, гарачую, трапяткую душу.

Здалося спявалі тонкія дзявочыя рукі, калі быў паказаны «Танец бавоўны». Зграбнасць, хараство, лёгкасць і, галоўнае, сапраўдная народнасць — характэрныя былі для танцаў «Дзяўчына з краіны радасці», «Напевы флейты», «Танец з талеркай», «Тысяча і адно кружэнне», танец з оперы «Гульсары», «Харэзмскі маладзёжны танец».

Усе захапіліся мастацтвам Д. Рахматулаевай, Д. Файзулаевай, Н. Галаўлёвай, А. Нарматава, Ш. Адылавай, Ю. Хусанава, М. Арыбавай і ўсіх удзельнікаў народных танцаў.

А ў гэты час мне думалася, што сапраўдная прыгажосць — у мастацтве, у якім адчуваецца народны дух, далёкі ад выкрутасаў і непатрэбнага «мадэрнізму».

Шчырае дзякуй нашым узбекскім сябрам за вялікую радасць якую яны нам падарылі ў гэты вечар!

Эдзі АГНЯЦВЕТ.

З ДАЛЁКІХ ПАДАРОЖЖАЎ

# ПА ДАРОГАХ

Яўген КАРШУКОЎ



*ЗВЫЧАЙНА гавораць: колькі б ні чытаў кніжак, колькі б ні бачыў кінафільмаў і ні чуў аб той ці іншай краіне, але ж толькі наведаўшы яе, зірнуўшы на ўсё сваімі вачыма — па-сапраўднаму зразумееш народ, яго гісторыю, яго крокі ў будучае...*

*У канцы кастрычніка мінулага года з невялікай групай гомельскіх турыстаў мне пашанцавала пабываць у Аб'яднанай Арабскай Рэспубліцы. Паездка была параўнаўча кароткая, двухтыднёвая. Але і тое, што мы ўбачылі, пачулі тут з вуснаў арабаў, узбагаціла наша ўяўленне аб мужным егіпецкім народзе, які вядзе зацятую барацьбу супраць ізраільскіх агрэсараў, аб яго мэтах і імкненнях. Шумныя ўсходнія гарады і сёлы, сяброўскія сустрэчы і расказы — усё гэта зрабіла глыбокае, незабыўнае ўражанне.*

## БЛАКІТНАЕ НЕБА І АКОПЫ

Мне помніцца вайна... Нявіннымі вачыма падшыванца, трапяткім дзіцячым сэрцам убіраў я ўсе яе жахі, яе малюнкі, напісаныя барвовымі фарбамі пажарышчаў і чорнымі злавеснымі кропкамі гітлераўскіх сцярвятнікаў у бязвоблачным небе. Дагэтуль не магу забыць агіднага, нарастаючага з кожнай хвілінай парасячага віску бомбы і страшэнных грымотаў выбухаў.

Па шчаслівай выпадковасці ні тая, ні іншая бомба не трапіла ў маю школу, як у школу арабскіх хлапчукоў і дзяўчынак. Ды людзі не скарыліся агрэсару, ён не змог ніякімі крывавымі злачынствамі зламаць іх баявы дух, іх рашучасць адстаяць гонар і незалежнасць сваёй радзімы.

Прыкметы вайны відаць у Аб'яднанай Арабскай Рэспубліцы ўсюды: вось па вуліцах Каіра праязджаюць грузавікі з салдатамі, вось роўнымі ярусамі ляжаць мяшкі з пяском насупраць жылых будынкаў, устаноў — аховы ад асколкаў у выпадку бамбёжкі. Мяшкі з пяском нам давялося бачыць і ў Каірскім нацыянальным музеі: імі былі акуратна абкладзены велічныя статуі егіпецкіх фараонаў. Нават у суровыя трывожныя дні вайны народ не забывае пра помнікі сваёй старажытнай культуры. І мне тады, у музеі, падумалася: колькі розных войнаў, колькі заваёўнікаў бачылі гэтыя каменныя скульптуры за тысячагоддзі, але ж заваёўнікі рана ці позна пакідалі край, а статуі — па-ранейшаму жывуць, неўміручыя, як і сам егіпецкі народ!

Упэўненасць у праваце сваёй справы, у тым, што вораг не пажне пладоў сваёй агрэсіі, гучыць у словах кожнага егіпцяніна.

Прыгадваецца сустрэча з егіпецкімі салдатамі. Мы ехалі ў Асуан з Луксора. Састаў ужо быў на пуцях, але да пасадкі заставаўся нейкі час. І тут, на пероне, у гэтыя паўгадзіны нашай увагай поўнасцю завалодалі маладыя хлопцы ў бледна-зялёнай вайсковай форме. Не трэба было быць асабліва назіральным, каб вызначыць: навабранцы. Убачыўшы нас, даведаўшыся, што мы рускія, яны ўсяляк намагаліся выказаць нам сваю прыхільнасць: прывітальна махалі рукамі, шчыра ўсміхаліся, прапаноўвалі садавіну. Сярод іх быў афіцэр. Ён, насупліваючы густыя, чорныя, як сажа, бровы, спрабаваў суцішыць салдат, аднак і сам не вытрымаў, падышоў да нас і, папрасіўшы прабачэння за сваё маладое гарачае воінства, вельмі шчыра прамовіў па-арабску:

— Шокран, шокран, рускі! Рускі коіс...

І слова «шокран» (дзякуй) і слова «коіс» (добра) мы ўжо ведалі. І тым больш было прыемна яшчэ раз пачуць іх ад гэтага невысокага, падцягнутага здаравякі з суровым тварам, убачыць, як ён скупымі жэстамі спрабуе растлумачыць нам, што ні аднаго кавалачка свяшчэннай арабскай зямлі яны ніколі не аддадуць, загінуць, але не аддадуць!

Потым ужо, у Александрыі, ад аднаго вайскоўца мы чулі, што тры гады вайны не прайшлі марна для егіпцян, што за гэтыя тры гады людзі ў вайсковай форме навучыліся ваяваць. Сведчанне гэтага — смелыя рэйды камандосаў праз Суэц на ізраільскія пазіцыі, шчыльны загараджальны агонь арабскіх зенітчыкаў. У апошні час ізраільскія лётчыкі ўжо не адважваюцца ўрывацца ў глыбіню тэрыторыі ААР, перасталі нахабна лётаць нізка — іх збіваюць...

Пажылы сівавалосы вайсковец закончыў сваю гутарку прыкладна так:

— Калі агрэсар не паразумнее, паспрабуе яшчэ раз сунуцца — яго сустрэнуць як мае быць, ён сутыкнецца зусім не з той егіпецкай арміяй, якой яна была некалькі год назад!

Гэтыя словы можна адрасаваць не толькі да арміі, але і да ўсяго егіпецкага народа. Мне здаецца, што ўсюды, дзе мы былі, дзе праязджалі — людзі напагатове, як на фронце; адчуваецца незвычайная пільнасць, гатоўнасць да барацьбы ў любую мінуту; паўсюдна створаны атрады самаабароны, паўсюдна агнявыя супрацьпаветраныя кропкі. Часам праязджаеш па дарозе і не здагадваешся, што побач, усяго ў некалькіх кроках, у жоўтых пясках пустыні хаваецца фартыфікацыйнае збудаванне — з байцамі, са складаным навейшым узбраеннем...

Ужо калі мы занялі свае двухмесныя купэ, калі поезд паволі пасунуўся ўздоўж перона, міма пакгаўзаў, станцыйных памяшканняў Луксора, я падняў штору на акенцы і зусім ушчыльную перад сабой убачыў на пероне безвусыя вясёлыя твары тых жа-навабранцаў. Яны нібы чакалі гэтага моманту, каб яшчэ раз сваімі зычлівымі ўсмешкамі пажадаць нам шчаслівага падарожжа па іх краіне.

Стаміўшыся за дзень ад шматлікіх экскурсій і нязвыкла пякучага афрыканскага сонца, мы леглі адпачыць. Ды чамусьці сон не ішоў. Знаёмая песня постуку колаў не супакойвала, а трывожыла. А можа справа была зусім і не ў гэтым ляскаце колаў на стыках рэек. Мой сусед кінааператар Раман Шапавалаў таксама бясконца варочаўся на паліцы. Нарэшце ён не вытрымаў:

— Што, не спіш? І мне, брат нешта не спіцца...

І, аблакаціўшыся на падушку, загаварыў:

— Ведаеш, шкада мне гэтых маладых арабаў. Успомніў я сябе вось такім жа, неабстраляным, у сорак першым. І нібы зноў са мною ўсё гэта. Нібы не яны, а я стаяў там на пероне. Сам яшчэ і блізка нічога не ўяўляеш, што і як на фронце будзе, хвалюешся — ці ўцалееш у першым баі? Але ж здорава хочацца, каб людзі, зірнуўшы на цябе, на твой бадзёры вясёлы твар, верылі: такі не падвядзе, такі галаву пакладзе, але да апошняга патрона біцца будзе...

Звычайна не гаваркі, Раман шумна ўздыхнуў, зноў лёг і ўжо, відаць, праз сон з мяккай хрыпатцой прамовіў:

— Добрыя ўсё-такі хлопцы...

## ПІРАМІДЫ І ЛЮДЗІ

Яшчэ ў школе, вывучаючы гісторыю, мы з хваляваннем чыталі аб старажытнай егіпецкай культуры, якая пачыналася ў страшэннай далёкіх «гадах да нашай эры».

І вось у першыя ж дні знаходжання ў сталіцы ААР перад намі паўстала ва ўсёй велічы тая, другая эра. Піраміды фараонаў Хеопса, Хефрэна і Мікерына ўзвышаюцца над бяскрайнімі прасторамі пустыні ў некалькіх кіламетрах ад цэнтра горада, у Гізе. Самая вялікая з іх — піраміда Хеопса—дасягае амаль паўтараста метраў у вышыню, а даўжыня аднаго боку ў аснове — 233 метра. І нам, сучасным людзям, людзям эпохі нябачнага росквіту навукі і развіцця тэхнічных сродкаў, проста цяжка паверыць, што гэтае манументальнае збудаванне больш чым з двух мільёнаў блокаў зроблена без прымянення механізмаў. Кожны ж блок важыў ад 2,5 да 30 тон! І нават калі б мы дадалі да гэтага, што будавалі піраміду трыццаць год сто тысяч нявольнікаў, усёроўна цяжка ахапіць розумам неверагодны подзвіг старажытных будаўнікоў. Магчыма, у нейкім сэнсе гэтую дзіўную з'яву растлумачыў нам гід, прафесар каірскага універсітэта Юсеф Якоб.

— Гаворачы пра нашы піраміды, звычайна ўпіраюць на тое, што яны былі ўзведзены дзякуючы выключна цяжкай, непасільнай працы людзей. Наўрад ці варта толькі так разумець пытанне. Я хацеў бы звярнуць вашу ўвагу на тое, што будаўнікі былі адухоўлены ідэяй пірамід. Узводзячы магільню для фараона, датыкаючыся да свяшчэнных, па іх разуменні, каменных блокаў піраміды, яны верылі ў сваё бессмяроцце, верылі, што тым самым як бы ўвекавечваюць, абагульняюць і сябе.

Што ж, у гэтым ёсць логіка. Такая гіганцкая творчая праца сапраўды па плячы толькі адухоўленаму чалавеку, чалавеку-мастаку. І памятнік гэта перш за ўсё яму, бясконца далёкаму продку нашых сучаснікаў.

Дарэчы, у Каірскім нацыянальным музеі і на развалінах храмаў нам давялося бачыць каменныя статуі гэтых людзей. Расфарбаваныя, дагэтуль не згубіўшыя колеру, твары іх зачароўвалі нас, прыцягвалі да сябе. Хацелася запомніць іх рысы: фарбаваныя валасы, бровы, ганарлівы выгіб прыадкрытых вуснаў, ледзьве прыкметную прыжмурынку вачэй...

А якую глыбокую павагу адчуваеш да старажытнага скульптара, калі на руінах першай сталіцы Егіпта Мемфіса бачыш распластаную на зямлі ружова-гранітную каласальную фігуру фараона Рамзеса-II!

І тое ж уражанне пакідае магутны сфінкс, адно з сямі цудаў свету, устаноўлены ля падножжа піраміды Хеопса. Міжвольна прыгадваюцца вершаваныя радкі з «Фаўста» Гётэ, у якіх гаворыцца аб бессмяротнасці сфінкса, яго вечнасці.

Але ж не-не ды і растрывожыць думка: як жа так магло здарыцца, што народ, спалучыўшы ў сваёй шматтысячагадовай біяграфіі самыя розныя эпохі і цывілізацыі, стварыўшы яшчэ на світанні чалавецтва такое мастацтва, стагоддзямі марнеў у цемрачы і невуцтве?

Што ж, прычын было нямала...

Толькі скінуўшы ў 1952 годзе манархію караля Фарука, вызваліўшыся ад феадальнага ўціску і каланіяльнай залежнасці, таленавіты егіпецкі народ знайшоў правільны адказ на гэтае пытанне. Пачаўшы з ліквідацыі непісьменнасці, егіпцяне дасягнулі прыкметных поспехаў і ў галіне культуры, і ў галіне эканомікі.

Але, бадай, самая галоўная з заваёў егіпецкай рэвалюцыі — гэта новы чалавек рэспублікі. Яго сустрэнеш літаральна ўсюды: і ў дзяржаўнай установе, і за станком, і на полі, і, нарэшце, проста ля газетнага кіёска або рэпрадуктара на вуліцы.

Памятаю, у канцы нашага знаходжання ў ААР у Каіры праходзіла сустрэча на вышэйшым узроўні лідэраў трох суседніх арабскіх дзяржаў: ААР, Лівіі і Судана. І трэба было бачыць, з якой трапяткой увагай, з якой прагнасцю ўслухваліся, збіраючыся на вуліцах, жыхары сталіцы ў паведамленні радыё.

Вось адзін з новых людзей — малады араб Юсеф Аль Надазей. Ён сам прыйшоў да нас у атэль у Луксоры, каб... пагаварыць па-руску. Так, так, менавіта па-руску. Высокі, хударлявы, трошку сутулы, ён стаяў перад намі ў фае і сарамліва, не хаваючы раднаснай узрушанасці, старанна вымаўляў рускія словы:

— Добры дзень... Я вывучаю рускі. Я еду Масква. Вучыцца...

Сапраўды, як высветлілася з размовы, Юсеф збіраўся ў адзін з савецкіх саўгасаў павышаць спецыялізацыю. Ён — аграном і працуе ў Луксорскім дзяржаўным вытворчым кааператыве, які вырошчвае рыс, цукровы трыснёг, буракі і іншыя культуры. З гонарам Юсеф гаварыў аб тым, што вось ён, сын шматдзетнага фелаха (у Юсефа дзесяць братоў і сясцёр), змог з дапамогай дзяржавы закончыць Каірскі універсітэт, набыць спецыяльнасць агранома і цяпер з энтузіязмам працуе на зямлі сваіх продкаў. У кааператыве — пяць трактараў «Беларусь», 40 гектараў зямлі. Аднак хай вам не падасца, што плошча зацельмі малая: ва ўмовах урадлівейшых зямель Егіпта, на якіх вырошчваюць па тры ўраджаі ў год, пры агульным недахопе гэтых зямель (толькі ж каля трох працэнтаў тэрыторыі рэспублікі апрацоўваецца — Луксорская гаспадарка не маленькая.

На жаль, наведанне кааператыва не было запланавана абслугоўваючай нас кампаніяй па турызме. Мы не змаглі выкарыстаць гасціннае запрашэнне Юсефа і заехаць у кааператыў. І вось тады, калі мы ўжо ад'язджалі з Луксора, Юсеф сам прыйшоў на вакзал, каб развітацца з намі. Мы абмяняліся адрасамі: для сяброўскай перапіскі. Урэшце, чаго не здараецца — можа патрапіць убачыцца яшчэ?

Аграрная рэформа не толькі вызваліла егіпецкага селяніна ад такіх спрадвечных паразітаў і эксплуататараў, як перакупшчыкі ўраджаю і ліхвяры. Займы і крэдыты, насенне і ўгнаенні, жывёла і транспартныя сродкі прадстаўляе і забяспечвае членам кааператыва на льготных умовах сама дзяржава. Яна ж дапамагае кааператывам агранамічнымі кадрамі, клапоціцца аб быце фелахаў.

У наваколлі Александрыі мы наведалі вёску Этуан — адну з адзінаццаці, якія, аб'яднаўшыся, стварылі на землях асушанага возера Марыут кааператыўную гаспадарку па сумеснай апрацоўцы зямлі і збыце прадукцыі. Абдул Манэ, асістэнт генеральнага дырэктара кааператыўнай гаспадаркі, расказваў нам аб дасягненнях гаспадаркі, аб высокіх ураджаях бавоўны, рысу, кукурузы. Але не меншае ўражанне зрабіў на нас і быт членаў кааператыва, культура новай вёскі.



Ніл у раёне высотнай Асуанскай плаціны.




У Этуане ёсць не толькі пачатковая школа для дзяцей фелахаў, але і школа вытворчага навучання, і дзіцячы сад, і паштовае аддзяленне, і пункт медыцынскага абслугоўвання, і нават Палац культуры.

Нас запрасілі на ўрок. Дваццаць пар дапытлівых чорных вачанят з захапленнем утаропіліся на савецкіх турыстаў. Па радах, як пароль дружалюбнасці, пранеслася: «Рускія, рускія....» Настаўніца Сабія Басаны Алі разгублена сціснула ў руцэ мел, адышлася ад дошкі; дзеці перасталі пісаць у сшытках; у клас ускочыла чацвёрка маленькіх рухавых настаўніц. І цікавая ўсхваляваная-таропкая гутарка захапіла кожнага з нас. Асабліва даймаў гаспадароў сваімі пытаннямі настаўнік з Рэчыцы Карп Мікітавіч Савасценка: як жа, сустрэў калег!

— Ці плацяць у вас за навучанне?

— Ды не, што вы! — весела ўзняўшы броўкі, смяецца Сабія. — У нас цяпер, як у Савецкім Саюзе — нават у вышэйшых навучальных установах не плацяць. Я сама закончыла педагагічны коледж.

Карп Мікітавіч, задаволена хмыкнуўшы, нешта запісвае ў сваю кніжачку і падкідае наступныя пытанні: «Чаму дзеці з шасцігадовага ўзросту ідуць у школу? Калі выпускнікі сярэдніх школ вызваляюцца ад уступных экзаменаў у вышэйшыя навучальныя ўстановы?» Ды ўрок ёсць урок. Нават госці не павінны злоўжываць тут. І, абмяняўшыся сувенірамі, сяброўскімі пажаданнямі, мы паспяшаліся пакінуць клас.

А знаёмствы працягваліся. У школе вытворчага навучання нам прадставілі маладую мажную жанчыну — Небію Абдэль Ібн. Ахайна апранутая, яна і яе сяброўкі сядзелі за швейнымі машынкамі, асвойваючы кравецкае майстэрства. І прыемна было з аднаго боку і горка з другога супастаўляць гэтыя жыццярадасныя твары з тымі скаванымі, панурымі тварамі многіх жанчын, якіх мы даволі часта сустракалі ў старадаўнім чорным адзенні на вуліцах Каіра. Чаго грахі ўтойваць, рэлігійны перажытак тут вельмі моцны, ён ціске на жанчыну ў ААР усім сваім цяжарам, прыніжае яе годнасць, звязвае яе свабоду. Але знамянальны працэс эмансіпацыі, як бачыце, адбываецца.

Сёння ў рэспубліцы ўжо выкаваўся свой рабочы клас, колькасць якога хутка расце. А ў жыцці новага Егіпта гэта з'ява даволі важная. Ды аб гэтым пазней.

## ЖАМЧУЖЫНА СЯРОДЗЕМНАМОР'Я

Александрыя — жамчужына Сяродземнамор'я. Так не без падставы гавораць пра гэты егіпецкі горад, заснаваны яшчэ Аляксандрам Македонскім. Але ж не памятнікі мінулага прываблівають турыстаў у Александрыю, а мяккі клімат і мора...

Не пакінуў ён абыякавымі і нас. Мы прыехалі ў Александрыю надвячоркам, але праз гадзіну ўжо гулялі па набярэжнай Корніш, купаліся. Цяжка сказаць, чаго больш у колеры марской вады — зеляніны або блакіту. Мора, нібы тут на славу папрацавалі нейкія казачныя арэтыя, пераворана хвалямі, дыбіцца, бяжыць удалячынь, за маякі, і там, на гарызонце, робіцца падманліва бялявым. Але калі назіраць ля самага берагу — зялёнае, тугога бутэлечнага колеру. Яно шумліва дыхае, б'ецца аб камяністы бераг, і здзіўляюча чыстая, бялютка-срэбная пена чароўнымі караламі коціцца да ног...

Спыніліся мы ў атэлі «Палестына», у цэнтры вядомага Александрыйскага парку. Гэта, бадай, адзіны зялёны куточак горада. У парку, размешчаным на беразе мора, растуць самыя разнастайныя паўднёвыя дрэвы — ад каралеўскай пальмы да магутнага баабаба. Не выпадкова да 1952 года тут, у Палацы Мантаза, праводзіў лета апошні егіпецкі кароль Фарук. А сёння парк стаў зонай зялёнага адпачынку для ўсіх александрыйцаў.

Штогод, як нам расказвалі, да двух мільёнаў жыхароў горада ўлетку дабаўляецца яшчэ мільён егіпцян і турыстаў з замежных краін, што прыязджаюць правесці свой адпачынак на сяродземнаморскім узбярэжжы. І тады белакаменныя атэлі з прыгожымі прасторнымі балконамі не пустуюць, як зараз, у асенне-зімовы перыяд, напаўняюцца разнамоўнай гаворкай шматлікія марскія пляжы, забудаваныя звычайнымі дачнымі віламі.

Але ж, канечне, Александрыя перш за ўсё — марскія вароты Егіпта, галоўны порт краіны і адзін з важнейшых прамысловых цэнтраў. Каля 30 працэнтаў прамысловай прадукцыі ААР прыпадае на долю гэтага горада. Колькасць прадпрыемстваў хутка расце, асабліва пасля рэвалюцыі 1952 года. І калі гаварыць аб сацыяльных пераўтварэннях, аб паляпшэнні жыцця рабочых і служачых горада, дастаткова прывесці некалькі красамоўных фактаў. Для александрыйцаў узведзена нямала новых дамоў. У галіне медыцынскага абслугоўвання Александрыя займае адно з першых месц сярод гарадоў ААР. Усе дзеці рабочых з шасцігадовага ўзросту наведваюць школы, якіх налічваецца тут некалькі соцень. Студэнты вышэйшых навучальных устаноў таксама ў сваёй большасці выхадцы з рабочых сем'яў.

Аб усім гэтым нам паведаміў адзін з дзесяці дырэктараў Александрыйскай хімічнай фабрыкі Амін Селім. На фабрыку мы былі запрошаны ўсёй турысцкай групай. Нас правялі па цэхах, пазнаёмілі з працэсамі вытворчасці мыльных парашкоў (дарэчы, яны ідуць на экспарт у СССР), рысавага крухмалу. Абсталяванне на прадпрыемстве — сучаснае. Але не яно, а людзі, іх умовы працы і жыцця цікавілі перш за ўсё.

Прыемнае ўражанне зрабіў на нас Амін Селім — мужчына сярэдніх гадоў, даўгатвары, с кароткай шчоткай валасоў на галаве і спакойным позіркам чорных вачэй. Трымаецца — упэўнена, расказвае нетаропка і ўвесь час на твары — дабрадушная ўсмешка.

— Вы пытаецеся, як жывуць у нас рабочыя, чаго мы дасягнулі? — уважлівым позіркам абводзіць ён кожнага з нас. — Пра гэта можна гаварыць бясконца многа. Але я вам падкрэслю галоўнае: за гады рэспублікі змянілася сама сутнасць рабочага чалавека. Цяпер егіпецкія рабочыя працуюць на сябе і на сваю дзяржаву. Яны, рабочыя, гэта добра разумеюць і робяць сваю справу старанна, сумленна, з душой. І ў палітыцы добра разбіраюцца. Ды што вам доўга гаварыць: у нас — 600 рабочых і амаль усе яны з'яўляюцца членамі Арабскага Сацыялістычнага Саюза.

У час гутаркі да дырэктара нярэдка падыходзілі рабочыя з рознымі пытаннямі. І па тым, як яны спакойна, дзелавіта і хутка іх вырашалі, як размаўлялі, трымаліся з Амін Селімам, можна было меркаваць: новае прыйшло і ва ўзаемаадносіны паміж простым рабочым і кіраўніком вытворчасці.

А нам гасцінны гаспадар між іншым гаварыў далей:

— Умовы жыцця? Палепшыліся. Сем'і шматдзетных рабочых, хворыя атрымліваюць у нас дапамогу. Тэрмін адпачынку залежыць ад працягласці працы рабочага на прадпрыемстве. Але адпачынкам карыстаюцца штогод ўсе без выключэння — так, як і пенсійным забеспячэннем па старасці. Колькі зарабляюць рабочыя? Кваліфікаваны рабочы — 40—50 фунтаў у месяц...

А патрэба ў гэтых кваліфікаваных рабочых у Егіпце — вялікая. Прамысловасць развіваецца, з дапамогай Савецкага Саюза будуецца нямала новых прадпрыемстваў.

Расце, мужнее і рабочы клас ААР.

## АСУАН

Калі аб адным з цікавейшых гарадоў ААР Луксоры гавораць, што ён — увесь у мінулым з яго старажытнымі палацамі і храмамі, з яго фіўскай гісторыяй, услаўленай, апетай яшчэ Гамерам, то Асуан— увесь у сучасным. Менавіта тут, у Асуане, Егіпет прабіўся скрозь гранітныя скалы да новай будучыні, узвёўшы на Ніле з братняй дапамогай Краіны Саветаў высотную Асуанскую плаціну.

Наш поезд прыбыў у Асуан ноччу. А раніцою, ледзьве пачало світаць, я быў ужо на нагах, ужо крочыў да вялікай ракі. Спусціўся ўніз па прыступках, высечаных у скале, і прысеў ля самай вады. Перада мной, як на далоні, нібы перавіты стальнымі мускуламі моцнай рукі, ззяў пругкі сіні Ніл. Ранішні халадок прыемна кранаў твар, вушы лавілі ледзьве чутнае пяшчотнае цурчанне вады ля берагавых гранітных скал, вочы прагна ўбіралі фарбы ракі і перадсвітальны бляск першых сонечных промняў. Насупраць, азараючыся трапяткім сонечным святлом, ляжаў невялікі астравок, скрозь пакрыты пальмамі. Па рацэ лёгка снавалі з аднаго берагу на другі парусьнікі.

Ніл быў не толькі літасцівым, але і бязлітасным, страшэнным у веснавыя паводкі: гінулі пасевы, гінулі людзі. І ніякія малітвы не маглі зрабіць таго, што зрабілі вызваленыя рэвалюцыяй людзі сваімі рукамі, сваёй працай, узвёўшы высотную Асуанскую плаціну.

Апоўдні таго незабыўнага дня нам пашчаслівілася наведаць яе.

Ад цэнтра горада да плаціны — не болей паўгадзіны язды. Ужо ў аўтобусе, прыпаўшы да акенцаў, мы здалёк намагаліся разгледзець гэтую гіганцкую будоўлю. Але толькі тады, калі апынуліся на целе самой плаціны, размешчанай у самым вузкім месцы ракі, ахопленай скалістымі берагамі, мы па-сапраўднаму ацанілі тытанічную працу савецкіх і егіпецкіх спецыялістаў, рабочых. Шэсць тунеляў было зроблена ў гарах, у кожным тунелі — па дзве магутныя турбіны. Такім чынам, выпрацоўка электраэнергіі з шасці турбін у Асуане пры максімальнай магутнасці дасягне 16 мільярдаў кілават-гадзін у год!

Мы стаялі на плаціне, уражаныя ўсім убачаным і пачутым, пазіраючы на люстраную роўнядзь бясконцага штучнага возера Насэра. З намі быў і гід, пажылы мясцовы настаўнік нубіец Мухамед Тага. Ён трохі адышоўся ад групы і нібы застыў у сваім беласнежным усходнім адзенні. Стаяў, задумліва схіліўшы галаву. Канечне, Мухамед Тага быў тут не ўпершыню, але кожны раз, відаць, яго хвалявалі адны і тыя ж думкі. І калі мы падышлі да старога, ён раптам жвава павярнуў да нас свой маршчыністы сухі твар — такога ж колеру, як колер пяскоў пустыні, і загаварыў дрыготкім голасам:

— Бачылі? Бачылі, якое велізарнае возера? Цэлае мора вады... Я — нубіец. І дзед мой, і прадзед, і прапрадзед жылі тут і знікалі ў зямлі, марачы толькі аб адным — аб вялікай вадзе, якая б ніколі не збягала ад нас у мора ў засушлівыя гады, без якой палі ператвараюцца ў выпаленую пустыню... І вось гэты час прыйшоў, прыйшоў!

Як было не зразумець хваляванне Мухамеда Тага! Сапраўды, возера Насэра, даўжыня якога 500 кіламетраў, а шырыня — 11, — самы вялікі вадаём у свеце. І ўжо ў 1965—1966 гадах, калі паводка была ніжэй звычайнага, краіну не напаткала немінучая засуха — вада прыйшла на сялянскія ўчасткі з возера Насэра, напаіла зямлю. Дарэчы, штучны вадаём і цяпер расце, канчаткова ён будзе запоўнены ў 1975 годзе.

Калі параўноўваеш, цяжка абысціся без лічбаў. І яны, гэтыя лічбы, афарбаваныя яркім фактам, прыпраўленыя рэальнай явай, ужо нікога не пакідаюць абыякавым.

— Вы захапляліся пірамідай Хеопса?— пытаецца Мухамед Тага. — Захапляліся, ведаю. Гэта — даўні подзвіг нашага народа. Але ж што тады наша высотная Асуанская плаціна? Яна ў 17 разоў большая, чым піраміда Хеопса!

Слухаючы ўзрушанага старога, было прыемна назіраць, як праносяцца міма па асфальтаванай дарозе «землякі» — МАЗы. На кожным кроку мы бачылі нашу савецкую тэхніку: бульдозеры, экскаватары, пад'ёмныя краны. Сустракалі і нашых спецыялістаў. Адзін з іх — інжынер-электрык Канстанцін Паўлавіч Каваленка — прыехаў да нас у гасцініцу. Прыехаў невыпадкова — сярод турыстаў быў адзін яго даўні прыяцель, гомельскі энергетык Куцэнка. Надоўга ў той вечар зацягнулася сяброўская размова. Ён, галоўны спецыяліст па наладцы гідраэлектрастанцыі, расказваў многа цікавага пра будоўлю, радаваўся, што вось ужо паспяхова ідуць апошнія работы.

Нехта наіўна спытаў:

— Хто будзе кіраваць электрастанцыяй, калі вы паедзеце адсюль?

Каваленка засмяяўся:

— Хто? Егіпецкія інжынеры, спецыялісты, якіх мы падрыхтавалі. Вы, мабыць, чулі: тут мы стварылі навучальны цэнтр, з якога ўжо выйшлі тысячы кваліфікаваных рабочых, спецыялістаў не толькі для Асуана, але для ўсяго Егіпта. — І, падумаўшы крыху, дадаў: — Так, справу сваю зрабілі. Пара і дахаты. Ужо сняцца родныя мясціны. Ды ж, дальбог, калі паеду —буду сумаваць па Асуане, па сваіх егіпецкіх сябрах. Людзі тут добрыя, вось што! Здружыліся мы...

«Здружыліся...» Братняе супрацоўніцтва савецкага і егіпецкага народаў на Асуанскай будоўлі назаўсёды застанецца ў гісторыі як сімвал бескарыслівай вялікай дружбы. І святло гэтай дружбы сёння ідзе па правадах высокавольтных ліній на сотні кіламетраў ва ўсе куткі Аб'яднанай Арабскай Рэспублікі.

## РАЗВІТАННЕ

Напярэдадні Кастрычніцкага свята мы вярталіся дамоў. Раніцою па дарозе на Каірскі аэрадром аўтобус збочыў да простай невялікай мячэці. Тут мы ўжо былі раней — ускладалі жывыя чырвоныя ружы на магілу прэзідэнта ААР Гамаль Абдэль Насэра. І вось зноў перад намі мора кветак, вялікі партрэт у чорнай жалобнай рамцы, з якога дружалюбна ўсміхаецца знаёмы твар прэзідэнта. Нерухома застылі з двух бакоў вартавыя. Твары салдат суровыя і тужлівыя. Такі ж выраз смутку быў на тварах і ў тых школьнікаў, якіх сустракалі мы ў Каіры і з якіх амаль кожны насіў у нагруднай кішэні партрэт Насэра; такімі ж засмучанымі былі і сяляне, калі размова заходзіла пра Гамаль Абдэль Насэра, і рабочыя-каменячосы, якіх мы сустрэлі ў Даліне цароў недалёка ад Луксора. Памятаю, адзін з каменячосаў, Ахмед Надзір, гаворачы пра нябожчыка прэзідэнта, пра тое, як многа ён зрабіў для егіпецкага народа і, нарэшце, пра яго паслядоўнікаў, узняў рукі і вельмі вобразна растлумачыў:

— У мяне дзве рукі. Адной рукой быў вялікі Насэр, другая рука — Анвар Садат.

Егіпцяне вераць у сваіх цяперашніх кіраўнікоў, упэўнены, што яны будуць належным чынам рабіць пачатую Насэрам справу сацыяльных пераўтварэнняў у краіне.

Перад ад'ездам з ААР мы яшчэ раз пабывалі ля вялікіх пірамід. На гэты раз на так званым тэатралізаваным відовішчы «Гук і святло».

...Начное неба заліта зеленаватым месячным святлом. Зоркавы купал павіс над галавой, апусціўся зусім нізка. Па зямлі блукаюць змрочныя цені, ля пірамід і каменнага сфінкса яны яшчэ гусцейшыя, яшчэ больш таямнічыя. А пад бокам — горад. І адтуль, з мячэці, даносіцца маркотны спеў мулы. Мы сядзім на адкрытай пляцоўцы... Чакаем. І раптам усе тры піраміды і сфінкс азараюцца чырвоным полымем пражэктараў. Гучыць, нарастае дзівосная музыка. І вось ужо чуецца голас — моцны і крыху самотны, нібыта ён зрываецца з вуснаў самога сфінкса. Неўзабаве вы ўжо не сумняваецеся: гэта гаворыць каменны Сфінкс! Ён гаворыць аб сэнсе жыцця, аб тым, як жылі, як кахалі, як змагаліся і паміралі людзі далёкага мінулага, заклікае ўслаўляць Ніл, на берагах якога нарадзілася сем цудаў свету:

*Ніл — рака надзей*
*Ад Асуана да дэльты.*
*Ніл — не магільнік,*
*Ніл — жыццё!*

Але ж гэтай цёплай ноччу нам, савецкім людзям, думалася не столькі аб мінулым, колькі аб будучым Егіпта — аб тым, што мужны працалюбівы народ Аб'яднанай Арабскай Рэспублікі знойдзе сілы адстаяць сваю незалежнасць, пабудуе на берагах Ніла новую квітнеючую дзяржаву.

«ІЛ-18» лёгка ўзняўся ў неба. Курс — на Маскву. Да пабачэння, Каір!

